


# Беларус

**75-ГОДЗЬДЗЕ!**
Менск, 25 сакавіка 1918 г.
**«Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнаю і вольнаю дзяржавай».**
**Рада БНР**

**№ 405 Верасень 1993**
Год выд. 42

**BIELARUS** / Belarusan Newspaper in the Free World. Published by the Belarusan American Ass'n, Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Price $2.50


## 25-ТЫ КАНГРЭС БАЗА

4 верасьня 1993 г. ў гор. Гайленд-Парку, штат Нью-Джэрзі, адбыўся 25-ты штодвухгадовы справаздачна-перавыбарчы кангрэс Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Адчыніў зьезд старшыня галоўнай управы БАЗА сп. Антон Шукелайць. Айцец Васіль Андраюк, настаяцель мясцовага прыходу БАПЦ, прачытаў малітву, прывітаў удзельнікаў, што прыбылі з розных штатаў, а таксама гасьцей з Бацькаўшчыны. Хвілінай цішыні ўшанавалі памяць памёрлых у міжчасе сяброў БАЗА.

У мандатную камісію былі выбраныя спсп. В. Кажан, Ф. Бартуль і К. Калоша; у прэзыдыюм — Я. Запруднік (старшыня), А. Орса-Рамана і Р. Станкевіч; у рэзалюцыйную камісію — Я. Арцюх, Г. Русак, Ю. Азарка і Я. Запруднік.

Са справаздачамі выступілі: старшыня галоўнай управы БАЗА — А. Шукелайць, скарбнік — В. Русак, старшыні аддзелаў: клііўлендзкага — Я. Ханенка, ньюёркскага — А. Міцкевіч, ньюджэрзійскага — Я. Азарка, рэдактар газэты «Беларус» — Я. Запруднік, скарбнік «Беларуса» — Р. Станкевіч, выдавец-рэдактар англамоўнага «Беларускага Агляду» А. Турэвіч. Была прачытаная таксама справаздача старшыні каліфарнійскага аддзелу сп. К. Вайцяхоўскага.

Справаздачы паказалі, што БАЗА — жывая й дзейная арганізацыя, якая праводзіць вялікую работу ў галіне трыманьня лучнасьці з амэрыканскім палітычным сьветам, з дэмакратычнымі плынямі на Беларусі; пашырае інфармацыю пра Беларусь і беларускія праблемы.

Са справаздачаў вынікла, аднак, што замала ўдзяляецца ўвагі справе прытоку ў арганізацыю новых сяброў спасярод другога пакаленьня амэрыканскіх беларусаў, а таксама спасярод новапрыбылых пасяленцаў зь Беласточчыны й Беларусі. Перад Задзіночаньнем стаіць паважнае заданьне падмаладжэньня кіраўнікоў як на ўзроўні аддзелаў, гэтак і ў галоўнай управе. Зьмена гэткая можа адбыцца з тым меншымі праблемамі, чым большае будзе папаўненьне сяброўства арганізацыі ў цэлым. Адкрытыя кантакты з краем паходжаньня цяпер павінны паспрыяць гэтаму. Тымчасам, аднак, сфармаваньне новай галоўнай управы наткнулася на перашкоду ў падборы новага складу. З гэтай прычыны кангрэс прыняў пастанову пакінуць яшчэ на год часу галоўную ўправу ў дасюлешнім складзе (што трэба разумець таксама як давер да ранейшага складу): Антон Шукелайць — старшыня, Юрка Азарка — заст. старшыні, Францішак Бартуль — заст. старшыні, Вера Запруднік — сакратар, Васіль Русак — скарбнік, Ала Орса-Рамана — культурны рэфэрэнт, Янка Запруднік — рэфэрэнт інфармацыі, Раіса Станкевіч — вонкавыя сувязі, Юрка Кіпель — адмысловыя праекты, Аляксандар Міцкевіч — сябра, Віктар Тур — маладзежны каардынатар.

Рэвізійная камісія засталася ў складзе: Віталь Кажан, Лявон Шурак, Кастусь Калоша.

Была прынятая прапанова рэзалюцыйнае камісіі выслаць падзяку Прэзыдэнту ЗША Білу Клінтану за запросіны ў Белы Дом Старшыні Вярхоўнага Савету Беларусі Станіслава Шушкевіча і прыхільнае стаўленьне амэрыканскага ўраду да Беларусі. У прывітаньні Прэзыдэнту Клінтану выказаная надзея, што амэрыканска-беларускае супрацоўніцтва будзе далей пашырацца.

Прынятая таксама пастанова выдаць інфармацыйную брашуру пра БАЗА ў ангельскай мове з мэтай пашырэньня ня сярод малодшага пакаленьня амэрыканскіх беларусаў з заклікам да іх далучацца да Задзіночаньня.

25-ты кангрэс БАЗА закончыў сваю працу супольным адсьпяваньнем гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі».

### РЭЗАЛЮЦЫЯ

**25-га кангрэсу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, які адбыўся ў Гайленд-Парку, штат Нью-Джэрзі, 4 верасьня 1993 году.**

25-ты кангрэс БАЗА:

1. выказвае падтрыманьне ідэі дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі, пабудовы дэмакратычнага ладу й эканомікі вольнага рынку, адраджэньня беларускае культуры, захаваньня беларускае мовы як адзінае афіцыйнае мовы Рэспублікі Беларусь, пашаны правоў чалавека і правоў усіх этнічных групаў у дзяржаве;
2. салідарызуецца зь Беларускім Народным Фронтам і ўсімі дэмакратычнымі партыямі й плынямі ў Беларусі, якія працуюць на адраджэньне вольнай дэмакратычнай беларускай дзяржавы, вядуць змаганьне з чужой нутраной і вонкавай агентурай;
3. пацьвярджае сваю адданасьць справе дапамогі ахвярам чарнобыльскае катастрофы ў Беларусі, ахвярам сёлетняе паводкі на Гомельшчыне й Берасьцейшчыне;
4. прызнае неабходным далейшае пашырэньне й замацоўваньне ўсебаковых кантактаў паміж грамадзтвамі Злучаных Штатаў Амэрыкі і Беларусі;
5. падтрымвае справу адбудоўваньня ў Беларусі помнікаў гісторыі, культурных установаў, беларускіх сьвятыняў, узгадоўваньня кадраў спэцыялістаў у розных галінах.

**НУМАРАЦЫЯ «БЕЛАРУСА»**

«Беларуса» № 403 ня было. У нумарацыі памылкова здарыўся пропуск. Каб выйсьці з палажэньня, будзем лічыць чэрвеньска-ліпеньскі нумар падвойным нумарам — 402-403. **Рэдакцыя**

Галоўныя ўправы БАЗА і БІНіМ ды сябры рэдкалегіі «Беларуса» сардэчна віншуюць сваю былую шматгадовую супрацоўніцу на розных становішчах, у тым ліку рэдактара газэты «Беларус»,

**НАТАЛЬЮ АРСЕНЬНЕВУ**

зь 90-мі ўгодкамі жыцьця, што спаўніліся 20 верасьня сёлета, і жадаюць Ёй добрага здароўя, натхненьня і ўсякае памыснасьці. Дай Божа!

Вітаем слаўную беларускую паэтку й выдатную грамадзкую дзеячку

**НАТАЛЬЮ АРСЕНЬНЕВУ**

зь 90-мі ўгодкамі жыцьця й жадаем Ёй добрага здароўя і творчых сілаў яшчэ на многія, многія гады. З глыбокай пашанай і любоўю —

**КААРДЫНАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ**

## *ЗА ШТО ЯМУ БЫЎ СЬМЯРОТНЫ ПРЫСУД?..*



*Янка Філістовіч*

6-га чэрвеня сёлета прыехаў да нас у Парыж зь Лёндану наш паважаны і дарагі Візытатар для беларусаў-каталікоў а. Аляксандар Надсон, які быў запрошаны, каб адслужыць паніхіду ў памяць нашага сябры, прыяцеля і вялікага змагара за волю Беларусі — Янкі Філістовіча. Гэты дзень 6-га чэрвеня быў ня толькі днём успаміну пра Янку Філістовіча, але таксама днём Усіх Сьвятых (нараджэньне царквы), таксама Днём маці ў Францыі, днём 49-х угодкаў высадкі саюзных войскаў у Нармандыі (1944 г.), а для нашага маленькага гуртка беларусаў у Парыжы — працягам сьвяткаваньняў гадавіны 25 сакавіка 1918 г., бо прыехаў да нас наш сьвятар і можна было усім памаліцца і падзякаваць Богу за адраджэньне Рэспублікі Беларусь.

Паніхіду па Янку Філістовічу ўсе прысутныя выслухалі зь вялікай павагай ды адначасна з жалем, бо многія з іх зналі Янку асабіста. У іхных вачах былі сьлёзы, быццам успамін тых старых гадоў і таго жудаснага мінулага застаўся незагойнай ранай...

Янка Філістовіч, наш дарагі Янка, як многія юнакі Беларусі, што былі параскіданыя падчас Другой сусьветнай вайны амаль па ўсім сьвеце, апынуўся пасьля вывазу ў Нямеччыну ў Судэтах як працаўнік у земляроба Гутэвассэра. Гэта было ў 1943 годзе.

У 1945 годзе Янка ўцёк у чэхаславацкую партызанку, а па сканчэньні вайны, таму што нарадзіўся ў Заходняй Беларусі, трапіў у вайсковы польскі лягер, дзе закончыў сярэднюю школу. На ягоную асабістую просьбу вайсковыя ўлады дазволілі яму ехаць у Францыю на вышэйшую вучобу, і ён запісваецца на сусьветна ведамы Сарбонскі Ўнівэрсытэт, на факультэт гісторыі. А таму, што ягонае матар'яльнае становішча было вельмі цяжкім, як амаль ува ўсіх тых, што апынуліся вонках Беларусі, дык ён мусіў адначасна і працаваць, і вучыцца.

Малады, прыгожы, інтэлігентны, ён хутка знайшоў сваё месца паміж сяброў беларускай эміграцыі ў Францыі, якая тымі гадамі была даволі вялікая, хоць у наступных гадох многія эмігравалі далей, асабліва на амэрыканскі кантынэнт.

У 1948 годзе Янка Філістовіч просіць у французскіх уладаў, каб далі яму дазвол заснаваць арганізацыю Беларуская Незалежная Моладзь і выдаваць яе орган, часапіс «Моладзь», на што атрымаў пазытыўны адказ. З адным са сваіх сяброў-студэнтаў ён заснаваў і арганізацыю, і часапіс. Выйшла каля 10 нумароў «Моладзі», дзякуючы супрацоўніцтву некалькіх сяброў арганізацыі.

На пачатку 1950-х гадоў Янкаў супрацоўнік і прыяцель, зь якім яны жылі два гады ў адным памешканьні, быў моцна ўражаны, што Янка кудысьці прапаў, быццам у зямлю праваліўся... І прыяцелю давялося самому працягваць выданьне часапісу «Моладзь». Страту Янкі ён зразумеў толькі тады, калі атрымаў кніжку савецкага выданьня «Па воўчых сьцежках» Макара Пасьлядовіча (Дзяржвыдавецтва БССР, 1958), у якой апісвалася, як савецкая дзяржаўная паліцыя «гераічна» за ім хадзіла і нарэшце арыштавала, каб пакараць «ворага народу»...

А ў сапраўднасьці фальшывыя людзі выдалі яго ў жудасныя рукі НКВД, ведамага, як і Гестапа, сваімі забойствамі.

Прасядзеў Янка Філістовіч год часу ў турме, куды трапіла таксама ягоная спадарожніца, якую ён спаткаў у Беларусі, зь якою дзейнічаў, гора разам гаравалі, і якую кахаў усім сэрцам. Яна ў турме нарадзіла дзіцё, толькі

*(Працяг на ст. 4-й ст.)*

**BIELARUS**
Belarusan Newspaper in the Free World
Published monthly by
BELARUSAN AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска зь перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

# РЭЗАЛЮЦЫ III УСЕБЕЛАРУСКАЙ ПАЛІТЫЧНАЙ КАНФЭРЭНЦЫІ




## АБ ПАЛІТЫЧНЫМ СТАНОВІШЧЫ Ў БЕЛАРУСІ

Пасьля аднаўленьня ў жніўні 1991 г. незалежнасьці палітычнае становішча ў Беларусі вызначаецца наступнымі галоўнымі чыньнікамі:

1. Істотныя зьмены ў міжнародным праўным статусе Беларусі ня выклікалі адпаведных унутрыпалітычных зьменаў. Уладу трымае абраны яшчэ ў часы бальшавіцкай імпэрыі Вярхоўны Савет і створаны ім намэнклятурны ўрад. Фармальнае прыпыненьне дзейнасьці кампартыі не павяло за сабою кадравага абнаўленьня органаў выканаўчай і судовай улады, а таксама мясцовага кіраваньня.

Захавалася і нават узмацнілася эканамічная залежнасьць сродкаў масавай інфармацыі ад ураду, што амаль цалкам пазбавіла іх толькі што атрыманай свабоды.

2. Неадпаведная дэмакратычным памкненьням нашага народу аджылая сыстэма не праводзіць неабходныя эканамічныя рэформы і не замацоўвае дзяржаўную незалежнасьць незалежнасьцю гаспадарчаю. Гэта выклікае няўмольны спад вытворчасьці. Ня прымаюцца найважнейшыя законы аб разьдзяржаўленьні прамысловасьці, гандлю й сфэры паслугаў, прыватнай уласнасьці на зямлю, якая-б адчыняла дарогу разьвіцьцю таварнай гаспадаркі, аб увядзеньні нацыянальнай валюты.

3. Вярхоўны Савет і ўрад не ствараюць праўных падставаў для прыцягненьня ў краіну замежных капіталаў і інвэставаньня новых вытворчасьцяў. Яны карыстаюцца кожнаю магчымасьцю атрымаць дзяржаўныя крэдыты, бясплённа выдаткоўваючы іх на падтрымку паміраючай камандна-разьмеркавальнай эканомікі і свайго існаваньня. Урад пераўтварае ў даўжнікоў замежных краін будучыя пакаленьні беларусаў і ўскладае на іх адказнасьць за сваё бяздарнае кіраваньне.

4. Шырокі размах набыў працэс незаконнай прыватызацыі, якую ў народзе называюць «прыхватызацыяй». Да яго маюць дачыненьні ў першую чаргу прадстаўнікі чынавенства, якія карыстаюць з адсутнасьці праўнай базы рэформаў, з дэфіцыту і свайго дачыненьня да разьмеркавальных мэханізмаў.

Разгул «прыхватызацыі» і спэкуляцыі дзяржаўнаю маёмасьцю выклікаў рост злачыннасьці і карупцыі, якая ахоплівае ўжо ўрадавыя структуры і вядзе да стварэньня мафіі.

5. Існуючная ўлада, забараніўшы 29 кастрычніка 1992 г. рэфэрэндум аб датэрміновых выбарах вышэйшага органу дзяржаўнай улады Беларусі на падставе дэмакратычнага выбарчага закону, распрацаванага Апазыцыяй БНФ у Вярхоўным Савеце, за правядзеньне якога выказалася больш як 442 тысячы грамадзянаў Рэспублікі Беларусі, груба парушыла заканадаўства, правы асобы і стварыла ў Беларусі сытуацыю палітычнага тупіка.

У выніку супрацьпраўнага рашэньня Вярхоўны Савет* пазбавіўся законных падставаў для існаваньня. Усе прынятыя ім пасьля 29 кастрычніка 1992 году рашэньні патрабуюць ратыфікацыі будучым дэмакратычным парлямантам Рэспублікі Беларусі**.

Далейшае існаваньне гэтага Вярхоўнага Савету стварае небясьпечнае і нестабільнае становішча ды пагражае ўнутраным і зьнешнім інтарэсам дзяржавы.

6. Шукаючы выйсьце з гэтага стану, намэнклятурны ўрад дзеля захаваньня ўлады імкнецца адрадзіць палітычную і вайсковую залежнасьць Беларусі ад Расеі, што пагражае стратаю дзяржаўнага сувэрэнітэту і паглыбленьнем эканамічнага крызісу. Ён спрабуе перакласьці адказнасьць за сваю палітычную нядзеяздольнасьць на Маскву, пазьбегнуць адказнасьці за правалы свайго кіраваньня. Ён адмоўна ставіцца да нацыянальнакультурнага будаўніцтва, прымае заходы дзеля наданьня расейскай мове статусу другое дзяржаўнае мовы, каб знайсьці падтрымку сярод шавіністычных колаў, зарыентаваных на Маскву.

Усё гэта сьведчыць, што мы перажываем час, калі фактычна вырашаецца лёс нашай Бацькаўшчыны.

Удзельнікі III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі лічаць неабходным:

— адмену незаконнага рашэньня Вярхоўнага Савету ад 29 кастрычніка 1992 году;

— правядзеньне не пазьней, як увесну 1994 году, выбараў у новы парлямант Беларусі, які будзе працаваць на прафэсійнай аснове, і тэрміновае прыняцьце ім Канстытуцыі краіны;

— імкнуцца да нэўтралітэту, як абвешчана ў Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі, не дапусьціць уваходу Беларусі ў вайсковы саюз з Расеяй ды іншымі краінамі СНД***;

— прыняцьце важнейшых законаў сацыяльна-эканамічнага характару ды істотнае паскарэньне працэсу разьдзяржаўленьня вытворчасьці, гандлю і сфэры паслугаў, стварэньне ўмоваў для запуску мэханізму канкурэнцыі ў гаспадарцы;

— забесьпячэньне рэальнай свабоды слова ў Беларусі;

— пашырэньне і паглыбленьне працэсу нацыянальна-культурнага адраджэньня праз строгае выкананьне Закону аб мовах у Рэспубліцы Беларусі, рэформаў ўсёй сыстэмы адукацыі і выхаваньня, падтрымку нацыянальнага мастацтва.

Удзельнікі III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі заклікаюць дэпутатаў Вярхоўнага Савету зразумець сутнасьць гістарычнага моманту, які перажывае краіна, усьвядоміць сваю асабістую віну за паглыбленьне гаспадарчага і палітычнага крызісу. Удзельнікі канфэрэнцыі заклікаюць іх або выканаць свой абавязак і прыняць вышэй згаданыя законы і пастановы, або, прыняўшы выбарчы закон, праект якога вынесены на рэфэрэндум, прызначыць датэрміновыя выбары.

Удзельнікі III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі заклікаюць усе дэмакратычныя сілы ў Рэспубліцы Беларусі да супрацоўніцтва і адказных палітычных паводзінаў у гэты крытычны час.

Прынята 6 ліпеня 1993 г.
г. Менск

---

*Дэлегацыя Аб'яднанай Дэмакратычнай Партыі Беларусі лічыць патрэбным закончыць гэты сказ словамі «паставіў пад сумненьне сваю легітымнасьць».

** Партыя Народнай Згоды не падпісвае другі абзац 5-га пункту.

*** Партыя Народнай Згоды лічыць патрэбным абмежаваць гэты сказ словамі «імкнуцца да нэўтралітэту, як абвешчана ў Дэклярацыі аб дзяржаўным сувэрэнітэце Беларусі».

## АБ ДЗЯРЖАЎНЫМ І КАНСТЫТУЦЫЙНЫМ ЛАДЗЕ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСІ

Удзельнікі III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі,

аднаўляючы перапыненую дзесяцігодзьдзямі традыцыю правядзеньня Ўсебеларускіх Канфэрэнцыяў з удзелам палітычных сілаў краіны і эміграцыі;

адстойваючы незалежнасьць Бацькаўшчыны як найбольшую вартасьць, як плён цяжкай барацьбы пакаленьняў беларусаў, як шанц для нашай краіны, які нельга змарнаваць;

падзяляючы перакананьне ў тым, што дэмакратыя, гарантаваныя асноўныя правы чалавека, у тым ліку права ўласнасьці, зьяўляюцца неад'емнымі атрыбутамі цывілізаванае дзяржавы,

канстатуюць, што галоўная прычына сучаснага крызісу ў Рэспубліцы Беларусі — панаваньне старой палітычнай і эканамічнай сыстэмы, заснаванай на манаполіі дзяржаўнай уласнасьці і ўладзе камуністычных сілаў. Гэтая сыстэма зьяўляецца галоўнаю перашкодаю для палітычных і эканамічных рэформаў. Абсалютна неабгрунтаванымі ёсьць сьцьверджаньні, быццам у Беларусі ўжо існуе дэмакратыя. Яе няма ні ў эканамічным, ні ў палітычным жыцьці. Ад былой камуністычнай намэнклятуры, якая стаіць ва ўладзе і распараджаецца асноўнымі сродкамі вытворчасьці, сыходзіць галоўная пагроза ня толькі зародкам дэмакратыі ў Беларусі, але і самой беларускай дзяржаўнасьці.

Удзельнікі III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі пагаджаюцца ў наступным.

1. Незалежнасьць Беларусі, яе прызнаньне і аўтарытэт у сьвеце, гістарычную пэрспэктыву беларускаму народу зможа забясьпечыць праўная дэмакратычная ўнітарная Беларуская дзяржава з рэспубліканскаю формаю кіраваньня.

2. Годнасьць, правы і свабоды чалавека, у тым уліку права ўласнасьці, павінны быць найвышэйшаю каштоўнасьцю Беларускае дзяржавы.

3. Паводле фундаментальных прынцыпаў дэмакратыі, у Беларускай дзяржаве неабходна ажыцьцявіць рэальны падзел заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады, ураўнаважыць іх уплыў.

4. Далейшая дэмакратызацыя немагчымая без стварэньня сыстэмы муніцыпальнага самакіраваньня замест цяперашніх саветаў.

5. Заканадаўчая ўлада павінна належаць парляманту, які будзе працаваць на прафэсійнай аснове.

6. Увядзеньне пасады Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі магчымае пасьля новых, дэмакратычных выбараў у парлямант. Прэзыдэнта належыць абраць усенародным галасаваньнем.

7. Урад Рэспублікі Беларусі будзе зацьвярджацца парлямантам і адказваць перад ім за сваю дзейнасьць.

8. Належыць стварыць незалежную судовую сыстэму.

9. Дзеля дасягненьня гэтых мэтаў неабходная канстытуцыйная рэформа.

Новую Канстытуцыю Рэспублікі Беларусі можа прыняць новы, абраны паводле дэмакратычнага выбарчага закону вышэйшы орган дзяржаўнай улады.

10. Выбары ў вышэйшы орган дзяржаўнай улады належыць правесьці паводле зьмешанай прапарцыйна-мажарытарнай выбарчай сыстэмы.

11. Мы выступаем за канстытуцыйна замацаваны нэўтралітэт Беларусі, за стварэньне войска, адданага незалежнай Беларускай дзяржаве.

Мы лічым неабходным рэальнае ажыцьцяўленьне законаў, скіраваных на абарону беларускай дзяржаўнасьці.

12. Канстытуцыйнага замацаваньня патрабуе палажэньне пра тое, што Беларуская дзяржава гарантуе і адстойвае нацыянальна-культурную пэрспэктыву беларускага народу, нясе адказнасьць за лёс беларусаў за межамі Рэспублікі Беларусі, а таксама гарантуе задавальненьне культурных патрэбаў нацыянальных меншасьцяў у краіне.

13. Неабходна стварыць спрыяльныя ўмовы для разьвіцьця незалежных сродкаў масавай інфармацыі і ліквідаваць манаполію дзяржавы ў гэтай сфэры.

14. Здаровая нацыянальная эканоміка можа скласьціся на грунце дэмакратыі і абароны ўласнасьці.

Мы выказваемся за эканамічныя рэформы, за разьдзяржаўленьне і прыватызацыю, за ўзаконеньне прыватнай уласнасьці на зямлю, якая-б адкрывала шлях для разьвіцьця таварнай гаспадаркі, за ўвядзеньне беларускай нацыянальнай валюты — талера.

Усе пералічаныя захады патрабуюць неадкладных дзеяньняў. У адваротным выпадку Беларусі пагражае рэзкае зьбядненьне насельніцтва і страта незалежнасьці.

Прынята 6 ліпеня 1993 г.
г. Менск.

# ІНФАРМАЦЫЯ ПРА ПЕРШЫ ЗЬЕЗД БЕЛАРУСАЎ



14-га жнівеня ў залі царквы Жыровіцкае Маці Божай у Галенд-Парку, Н-Дж., удзельнікі Першага зьезду беларусаў сьвету расказалі вялікай грамадзе слухачоў пра свае падарожжа на Бацькаўшчыну. Сп. А. Сільвановіч паказаў свой відэафільм з Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі і зьезду. Уражаньнямі ад падарожжа падзяліліся Вітаўт і Зора Кіпелі, Янка і Вера Запруднікі, Галіна Русак. Вечар прайшоў вельмі цікава й прыемна.

## АБ РАШЭНЬНЯХ II УСЕБЕЛАРУСКАЙ ПАЛІТЫЧНАЙ КАНФЭРЭНЦЫІ

Сёньняшні дэмакратычны рух у Беларусі ў значнай меры абапіраецца на традыцыі беларускай нацыянальнай дэмакратыі пачатку XX ст.

Ва Ўстаўных Граматах Беларускае Народнае Рэспублікі сфармуляваныя ідэалы, якія неабходна ажыцьцявіць: незалежнасьць, дэмакратыя і нацыянальна-культурнае разьвіцьцё.

Так склалася, што частка дзеячоў Беларускае Народнае Рэспублікі і беларускай палітычнай эміграцыі паверыла, быццам гэтых ідэалаў можна дасягнуць ва ўмовах СССР і БССР. На II Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі (Бэрлін, 1925) невялікая група былых сяброў ураду БНР прыняла пастанову аб ліквідацыі ўраду БНР і аб прызнаньні Менску адзіным цэнтрам беларускага адраджэньня, што зьявілася фактычным прызнаньнем бальшавіцкага рэжыму.

Удзельнікі III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі адзначаюць, што пастанова 1925 году вынікла з шэрагу прычын.

Да гэтых прычын належыць аднесьці:

— намаганьні ўраду БССР падарваць дзейнасьць Рады БНР, а таксама жаданьне пэўнай часткі дзеячоў БНР вярнуцца ў Беларусь;

— новую эканамічную палітыку, пры якой у БССР існавала шматукладная (зьмешаная) эканоміка і паляпшаўся ўзровень жыцьця народу;

— беларусізацыю, у час якой быў зроблены істотны крок наперад у разьвіцьці беларускай асьветы, навукі, культуры, а справаводзтва ў дзяржаўных, партыйных ды іншых установах і арганізацыях пераводзілася на беларускую мову;

— каранізацыю, калі на адказныя пасады ўсё больш прызначалі карэнных жыхароў Беларусі;

— амністыю 1923 году, паводле якой дзеячы БНР атрымалі магчымасьць працаваць у культурна-асьветных і навуковых установах БССР;

— гэтак званае ўзбуйненьне БССР, калі ўрад СССР вырашыў вярнуць у склад Беларусі частку беларускіх земляў, адарваных ад Бацькаўшчыны ў 1919 годзе;

— адносную самастойнасьць БССР у вырашэньні пытаньняў эканамічнай і культурнай палітыкі.

Некаторыя дзеячы беларускай палітычнай эміграцыі вырашылі, што працэсы беларусізацыі, каранізацыі і новая эканамічная палітыка зьяўляюцца стабільным курсам кіраўніцтва БССР. Яны не зважалі на перасьцярогі ўдумлівых і дальнабачных палітыкаў, якія сьцьвярджалі, што БССР не мае ўласнай палітыкі, што КП(б)Б зьяўляецца сэкцыяй УсеКП(б) і дзеля гэтага палітычны курс беларускіх бальшавікоў вызначаецца Масквою. Яны ня ўлічылі і таго факту, што да 1924 году ў СССР і БССР былі ліквідаваныя ўсе партыі, апроч бальшавіцкай.

Удзельнікі III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі канстатуюць:

1. Пастанова II Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі аб прызнаньні бальшавіцкага рэжыму была гістарычнаю памылкаю, актам празьмернай даверлівасьці бальшавікам.

2. Пастанова II Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі прымалася прыватнымі асобамі.

3. Старшыня Рады БНР Пётра Крачэўскі ды ягоныя наступнікі засталіся верныя ідэалам Беларускае Народнае Рэспублікі, яе Ўстаўных Граматаў, нягледзячы на ўсе намаганьні як бальшавікоў, гэтак і нямецкіх фашыстаў схіліць іх да супрацоўніцтва.

4. У пасьляваенны час Рада БНР усе гады зьяўлялася захавальніцаю ідэалаў Беларускае Народнае Рэспублікі, дзеля чаго была атакаваная бальшавіцкаю прапагандаю і фальсыфікатарамі гісторыі.

Удзельнікі III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі ўважаюць, што Рада БНР павінна працягваць сваю дзейнасьць да таго часу, пакуль у Рэспубліцы Беларусі на падставах дэмакратычнага выбарчага закону ня будуць праведзеныя выбары ў новы парлямант, пакуль ня будзе прынята дэмакратычная Канстытуцыя Рэспублікі Беларусі, пакуль у краіне не усталюецца палітычная й эканамічная дэмакратыя, пакуль зь Беларусі ня будуць выведзеныя ўсе замежныя войскі.

Удзельнікі III Усебеларускай палітычнай канфэрэнцыі поўныя рашучасьці працягваць традыцыі дэмакратычнай беларускай дзяржаўнасьці, запачаткаваныя ў 1918 годзе. Яны заклікаюць усіх дэмакратаў і патрыётаў на Бацькаўшчыне і за мяжою зьяднаць свае сілы дзеля будаўніцтва незалежнай і дэмакратычнай Беларусі.

Прынята 6 ліпеня 1993 г. г. Менск

# «АД ЗАХОДНЯЙ ДЫЯСПАРЫ»

**Прамова Янкі Запрудніка на Першым зьезьдзе беларусаў сьвету**

*(Працяг; пачатак у № 404)*

Сёньня ў беларускім друку, на розных форумах часта гучыць заклік: «Ідзем (або вяртаймася) ў Эўропу!» Тут акадэмік Радзім Гарэцкі сказаў у сваім выступленьні, што «нам трэба інтэгравацца ў Эўропу». Але «ісьці ў Эўропу», «інтэгравацца» ў яе трэба зь нечым, перш-наперш са сваімі таварамі, прадуктам свае працы. Мы мусім падумаць, што мы можам прапанаваць той Эўропе. Як паказвае практыка, справа гэтая даволі няпростая.

Найперш трэба сказаць, што схадзіць у Эўропу ці ў Амэрыку куды лягчэй і эфэктыўней, калі цябе там нехта са сваіх сустрэне, паможа моваю, кантактам, парадою. Вартасьць такой дапамогі могуць пацьвердзіць шмат якія народныя дэпутаты Беларусі, дзелавыя людзі, навукоўцы, мастакі, якім даводзілася быць у Нямеччыне, Францыі, Бэльгіі, Вялікабрытаніі, Канадзе, Злучаных Штатах. Мы ў Амэрыцы зь вялікай радасьцяй сустракаем і афіцыйных прадстаўнікоў Беларусі, і прыватных грамадзянаў. Традыцыя такіх сустрэч пачалася яшчэ ў 1970-х гадох, калі ў Нью-Ёрк у складзе беларускіх дэлегацыяў на Генэральную Асамблею ААН штогоду прыяжджаў нехта зь беларускіх пісьменьнікаў. Мы, як правіла, ладзілі яму літаратурны вечар, дарылі нашы публікацыі, расказвалі пра сваё жыцьцё-быцьцё, распытвалі пра дарагую Беларусь. Пачыналіся такія кантакты звычайна ў ньюёркскай Публічнай Бібліятэцы, куды дэлегаты зь Беларусі прыходзілі палюбавацца на Беларускую Савецкую Энцыклялэдыю. Працаўнікі бібліятэкі, др. Вітаўт Кіпель і ягоная жонка сп-ня Зора Кіпель, радыя былі такім наведнікам з Бацькаўшчыны і, супольна з нашым агульным прыяцелем прафэсарам Квінскага Каледжу Томасам Бэрдам, наладжвалі пісьменьніку-дэлегату сустрэчы з шырэйшым беларускім грамадзтвам. Іншая рэч, што раней такі наведнік ня мог расказаць публічна й шырока ў сябе ўдома пра ўсё, што ён бачыў і чуў у Амэрыцы.

Але прыйшлі нарэшце часы свабодных кантактаў. Аднэй зь першых радасных падзеяў у новым пэрыядзе быў для нас у Амэрыцы прыезд увесну 1991 году кіраўнікоў Беларускага Народнага Фронту і адначасна народных дэпутатаў Беларусі Зянона Пазьняка, Уладзіміра Заблоцкага і Лявона Баршчэўскага. Тады мы ўпяршыню пачуліся ізноў неадлучнай часткай беларускага народу.

Кантакты з Бацькаўшчынай пачасьціліся і ўзмоцніліся асабліва пасьля прыезду ў Нью-Ёрк на становішча кіраўніка беларускае місіі пры ААН Генадзя Бураўкіна, зь якім наша сувязь і паразуменьне пачаліся яшчэ ў 1970-х гадох. Апошнім часам у нас былі грамадзкія сустрэчы шмат з кім: зь Міністрам замежных спраў сп. Пятром Краўчанкам, народнымі дэпутатамі Ўладзімірам Новікам, Ігарам Германчуком, Сяргеем Навумчыкам, Юрасем Беленькім, адным зь лідэраў БНР сп. Юрыем Хадыкам, намесьнікам мэра Менску Анатолем Гурыновічам, галоўным рэдактарам «Народнай газэты» Іосіфам Сярэдзічам, са шмат якімі мастакамі, журналістамі, навукоўцамі.

Цяпер мы зь нецярплівасьцяй чакаем на прыезд Старшыні Вярхоўнага Савету рэспублікі сп. Станіслава Шушкевіча, у якога будзе сустрэча з Прэзыдэнтам Білам Клінтанам і, спадзяёмся, ці адно спатканьне з амэрыканскімі беларусамі.

Трэба падкрэсьліць, што ўсе падобныя сустрэчы — не толькі цырымоніяльныя, але й дзелавыя. У ходзе такіх спатканьняў адбываецца абмен інфармацыяй, завязваюцца знаёмствы, зараджваюцца ідэі, праекты. Выхад рэспублікі ў заходні сьвет — гэта найперш пашырэньне веды пра Беларусь. Вось чаму вялікую важнасьць мае дзейнасьць, прыкладам, Нацыянальна-Асьветнага Адукацыйнага Цэнтру імя Ф. Скарыны; важныя намаганьні прафэсара Міхася Піліпенкі, які апрацоўвае шматтомавую энцыкляпэдыю этнаграфіі Беларусі; важная дзейнасьць ЗБС «Бацькаўшчына», рэдактара і выдаўца ангамоўнага квартальніка «Беларускі Агляд» у Каліфорніі, выдавецтва газэты «Беларус». Выхад Беларусі ў сьвет — гэта й пашырэньне інфармацыі пра заканадаўства Беларусі, ейныя тавары, магчымасьці купілі-продажу.

Галоўная праблема для рэспублікі, як кожны з вас ведае сам па сабе, — праблема валютная. Паход у Эўропу, у Амэрыку ў вялікай меры — гэта паход па валюту, наладжваньне бізнэсаўскіх сувязяў. Сп. Радзім Гарэцкі казаў тут, што Беларусь можа быць вельмі багатай. Так, можа быць. Але для гэтага патрэбнае веданьне замежнага рынку.

У фае гэтага цудоўнага Тэатру опэры й балету сымпатычныя дзяўчаты ткуць паясы. Я пытаюся ў іх: «Дзяўчаткі, а вы ня робіце часамі гэткіх як у мяне гальштукаў з нацыянальным вузорам? Я вам заплачу валютаю. І шмат хто з нашых амэрыканскіх беларусаў купіў-бы таксама». Да такога попыту мае суразмоўніцы-вытворцы паясоў ня былі гатовыя.

Выхад на міжнародны рынак, як пабачылі ўжо тыя, хто быў за мяжой, — апэрацыя даволі складаная. Патрабуецца веданьне замежнае мовы, азнаёмленасьць з культурай чужой краіны. Перад Міністэрствам адукацыі рэспублікі і перад выдавецтвамі стаіць сёньня безадкладнае заданьне забясьпечыць аптымальныя магчымасьці для вывучэньня замежных моваў, найбольш мовы ангельскае — мовы міжнародных дзелавых кантактаў. Гэта значыць, што ў продажы павінны быць такія дапаможнікі, як падручныя слоўнікі, размоўнікі, касэткі. Частку гэткіх дапаможнікаў можна было-б падрыхтаваць у супрацоўніцтве зь ньюёркскім Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва, дырэктар якога, др. Вітаўт Кіпель — цяпер ужо й ганаровы доктар Гарадзенскага ўнівэрсытэту — знаходзіцца разам з жонкай сп-няй Зорай тут сярод нас.

Выходзіць у Эўропу, на Захад трэба ісьці з прапановай сваіх тавараў. Прадстаўнік ураду рэспублікі сп. Міхаіл Дзямчук гаварыў у сваім выступленьні тут пра «калідор», праз які рэспубліка выйшла-б у заходні сьвет. Тымчасам «калідор» гэты і вузкі, і поўны бюракратычных перашкодаў. Ня ведаю ці ёсьць хто-небудзь у беларускім урадзе, хто спэцыяльна займаецца вывучэньнем кардынальна важнага для Беларусі пытаньня: якія беларускія тавары, вялікімі партыямі і малымі, маглі-б мець збыт на замежных рынках? Я тут маю на ўвазе не калійную соль ці іншыя прыродныя багацьці Беларусі, а вырабы, плады працы. Беларуская зямля багатая на таленты й працавітых людзей. Чаго ёй не стае, дык гэта прадпрымальніцкай ініцыятывы, веданьня замежнага сьвету. Мне ўрэзаліся ў памяць цудоўныя мастацкія вырабы — шкатулкі, выцінанкі ды іншае — 15-16-гадовых ву-

*(Працяг на 4-й ст.)*

# ЗА ШТО ЯМУ БЫЎ СЬМЯРОТНЫ ПРЫСУД?

*(Заканчэньне зь 1-й ст.)*

няведама, ці гэта быў сын, ці дачка. Калі іхны нашчадак жыве, то яму (ёй) сёньня 40 гадоў.

За год часу допытаў Янкі Філістовіча пра ягоную дзейнасьць — дзе ён быў, з кім бачыўся, якія былі ў яго пляны на будучыню і г.д. — сакратары сьледчых напісалі 23 тамы. Аж цяжка паверыць! Гэтыя 23 тамы ляжаць у архівах сёньняшняга КДБ у Менску. Пасьля 1989 году доступ да архіваў быў вольны, а сёньня яго забаранілі. Чаму? Хто гэтага баіцца?..

Тут трэба коратка сказаць, як Філістовіч вярнуўся на Беларусь.

Туды ён быў скінуты, калі было вялікае міжнароднае напружаньне паміж СССР і Заходнім сьветам, якое называлі «халоднаю вайною». Вайсковыя лідэры Захаду прадбачвалі, што неўзабаве можа выбухнуць гарачая вайна ды пачалі падрыхтоўваць апазыцыю за плячыма Чырвонае Арміі ўва ўсіх савецкіх рэспубліках, якіх Масква падпарадкавала сваёй волі.

Дык вось, каб бараніць справу свабоды Беларусі, ад нас з Парыжу паехалі на бацькаўшчыну двух нашых сяброў: Касьцюк і Філістовіч. Касьцюка забілі падчас высадкі на беларускую зямлю, а Філістовічу ўдалося быць год вольным, а пасьля настаў год жудаснай турмы й допытаў...

Расстралялі Янку Філістовіча ў дзень сьмерці Сталіна 5 сакавіка 1953 году. Яму было толькі 28 гадоў. Нарадзіўся ён у в. Паняцічы на Вялейшчыне 14 студзеня 1926 году.

Тут трэба паставіць пытаньне: хто даў загад аб пакараньні яго сьмерцю? Бо калі наш карэспандэнт-журналіст у Менску знайшоў архівы і аднаго з судзьдзяў, якія дапытвалі Філістовіча, той быў вельмі зьдзіўлены, што яго расстралялі. На ягоную думку, Янка на сьмерць не заслугоўваў...

Дзе Янка Філістовіч пахаваны? Аб гэтым ня маю дадзеных. Можа ў Курапатах, а можа ў іншай агульнай магіле, якіх, як ведама, шмат параскіданых на ўсёй тэрыторыі Беларусі.

Некаторыя могуць сказаць — і часткава з рацыяй, — што ахвяра Янкі Філістовіча была непатрэбнай... Такой думкі нельга поўнасьцю падзяляць, бо тады тое самае можна сказаць пра Кастуся Каліноўскага. А мы-ж ведаем, што ўсе беларусы з пашанаю схіляюць галовы перад гэтым героем беларускага народу, які змагаўся, каб вярнуць незалежнасьць Беларусі... Трэба-ж, каб на нашай зямлі нараджаліся людзі здольныя яе бараніць.

Што можам з пэўнасьцю сказаць, дык гэта, што і адзін, і другі, як і цэлыя сотні да іх падобных, бязьмежна любілі свой край і ягоны народ. А любоў і ёсьць найбольшым штуршком у дзейнасьці чалавека і ўздымае на вяршаліну дасягненьняў, на якія здольнае чалавецтва.

Я асабіста знаў Янку Філістовіча і таму яшчэ раз магу паўтарыць, што ягоная любоў да Беларусі, да беларускага народу была бязьмежнай, і дадам, што Беларусь таксама ня можа забыць свайго адданага, ахвярнага, гераічнага сына.

**М. Смага**

# «АД ЗАХОДНЯЙ ДЫЯСПАРЫ»

*(Заканчэньне з 3-й ст.)*

чаніц маладэчанскага мастацкага вучылішча, зь якімі я меў шчасьлівую нагоду пазнаёміцца ў часе леташняе канфэрэнцыі ў Маладэчнае, і якія самбалізуюць у маім разуменьні канкурэнтаздольны талент беларускай зямлі.

Хачу дадаць тут да таго, што сказаў сп. Дзямчук: дыяспару трэба ўключаць ня толькі ў культурнае адраджэньне, але і ў эканамічнае, у гандлёвае прадпрымальніцтва. Тут сярод нас ёсьць сп. Васіль Мельяновіч са Злучаных Штатаў, кансультант па пытаньнях прадпрымальніцтва і гандлёвых сувязяў Беларусі з Амэрыкай. Нам трэба больш такіх экспэртаў. Гэта найбольшая сучасная патрэба рэспублікі. Трэба супольнымі намаганьнямі пракладаць шлях «у Эўропу»: з аднаго боку даваць высакаякасныя вырабы, а з другога — спрашчаць фармальнасьці продажу іх за мяжу.

Перад ад'ездам з Амэрыкі я гутарыў у Вашынгтоне з Богушам Станкевічам (наймалодшым сынам нашага ведамага моваведа Янкі Станкевіча). Богуш з захапленьнем расказваў мне, якія прыгожыя абразы ён бачыў нядаўна ў Віцебску, куды ён выпадкова трапіў у сувязі са сваім удзелам у разьмяркоўваньні гуманітарнае дапамогі, якую вялікадушна й самаахвярна завозіць у Беларусь амэрыканская арганізацыя «Сітыгоўп», узначальваная дастойным Полам Морам. Богуш Станкевіч не без рацыі думае, што малюнкам беларускіх мастакоў можна было-б знайсьці збыт у магазынах і Менску (для замежных турыстаў), і Вашынгтону, калі-б удалося спрасьціць фармальнасьці вывазу мастацкай прадукцыі.

Беларусь займела нядаўна ад Злучаных Штатаў г. зв. статус найбольшага спрыяньня ў гандлі, г. зн., што тарыфы на беларускія тавары цяпер ня вышэйшыя, як на тавары іншых прызязных з Амэрыкай краін. Грэх будзе не скарыстаць з гэтага статусу. Але патрэбная прадпрымальніцкая ініцыятыва, патрэбна веданьне ангельскае мовы, каньюнктуры рынку. Калі наладзіцца экспарт аднаго віду тавару, хай сабе ў малой колькасьці, гэта будзе пракладаць дарогу іншым таварам. Важна вырабіць сабе імя высакаякаснага вытворцы.

Што да спадзяваньняў на замежныя капіталаўклады ў Беларусі, дык дай Божа ўдачы, але замежныя інвэстары — гэта парода вельмі асьцярожных людзей, якія арыентуюцца галоўна на фактар рызыкі, а фактар гэты на тэрыторыі былога СССР вельмі высокі. Асноўным паказальнікам стабільнасьці ў гэтым выпадку лічыцца наяўнасьць адпаведнага заканадаўства. А ў Рэспубліцы Беларусь такое заканадаўства распрацаванае яшчэ вельмі слаба. Мала аднаго закону пра замежныя капіталаўклады — патрэбен цэлы шэраг падказаконных актаў, якія гарантавалі-б замежніку ягоны ўклад фінансаў у беларускую эканоміку. Афіцыйным заявам урадавых асобаў пра стабільнасьць у рэспубліцы заходнія бізнэсмэны ня вераць. Але агулам бяручы, да Беларусі на Захадзе шмат прыхільнасьці, асабліва ў Злучаных Штатах, за беларускую ініцыятыву па ліній ядзернага раззбраеньня й кантролю зброі. Выкарыстаць гэтую каньюнктуру для ўмацаваньня эканамічнай і палітычнай стабільнасьці ў Беларусі гатовая дапамагчы рэспубліцы беларуская дыяспара на Захадзе. Няхай-жа гэтай мэце і паслужыць наша тут гістарычная, доўгачаканая сустрэча — сустрэча з дарагімі сваякамі, суродзічамі, зь няўмірушчай Бацькаўшчынай.

Жыве Беларусь!

# НА АДЗІН КАРОТКІ МОМАНТ У ПРУЖАНАХ

Прыехалі мы ў Менск групай з Таронта, Канады, на Першы зьезд беларусаў сьвету 21 чэрвеня 1993 году. Ляцелі польскім самалётам ЛЁТ з Таронта праз Варшаву на Менск. На першым праверачным пункце ў Менску, сталіцы сувэрэннай Беларусі, сустрэў нас урадавец расейскай мовай. Адказвалі мы яму, бязумоўна, па-беларуску. Малады ўрадавец гэтаксама стаў гаварыць з намі па-беларуску.

Каб прайсьці мытню, нам трэба было выпаўніць адпаведны апытальнік. Сярод масы блянкаў на розных мовах — па-нямецку, па-ангельску, папольску, па-расейску — шукаем беларускіх... У сувэрэннай Беларусі апытальнікаў на беларускай мове не знайшлося! З пачуцьцём абурэньня й горычы бярэм ангельскія друкі й выпаўняем іх... Прайдзеце ўвесь свет, уздоўж і ўпоперак, а такога ня сустрэнеце. Да чаго-ж мы дажыліся!

На зьмену горкаму пачуцьцю абурэньня й зьнявагі прышла хваля радасьці, спрычыненая сардэчным беларускім прывітаньнем лічнай групы сяброў Беларускага Народнага Фронту й сьвятароў Беларускае Грэка-каталіцкае Царквы, якія віталі й абдарвалі нас букетамі валількоў, рамонкаў і ружаў, ды самаходамі разьвезьлі нас кожнага куды трэба.

Падарозе зь лётнішча ў Менск сп. Сяргей Мурог завёз нас сваім самаходам у Курапаты, дзе перад Крыжам Пакутнікаў зложылі мы кветкі й памаліліся, прачытаўшы вытрымкі са Службы за Памёрлых (Малой Паніхіды — перакладу на беларускую мову айца Аляксандра Надсона).

Перад Першым зьездам беларусаў сьвету, рэгістрацыя на які пачыналася 5-га ліпеня, мы з Эвай Пашкевічанкай, маёй пляменьніцай, вырашылі без адвалокі, адпачыўшы адзін дзень у Менску, паехаць у Пружаны — маё месца нараджэньня, у маю й Эвінай мамы бацькаўшчыну. (Эва радзілася ў Таронта, Канадзе.)

У сераду 23-га чэрвеня зранічкі выехалі мы, дзякуючы ветлівасьці сп. Сяргея Мурога, самаходам па шашы Менск-Берасьце ў Пружаны. Калі паказьнікі дарог сталі называць знаёмыя мясцовасьці — Лінава, Аранчыцы — маё сэрца заёкала. Зблізаемся да Пружанаў! Таго месца, дзе былі мама, тата, браты, сяброўкі, школа, дзе прайшло дзяцінства й частка раньняй маладосьці.

Пружаны сустрэлі нас сумным дажджом. Няма ўжо там ні мамы ні таты, няма ўжо шмат каго. Паўстагодзьдзе забрала іх у нябыт. Усё выглядае інакш.

Першы знаёмы аб'ект — касьцёл. Затрымаліся. Касьцёл зачынены. Выйшла старэйшая жанчына й пытае нас па-польску, ці мы з Польшчы? Кажам ёй — не, зь Беларусі, мы беларусы, хочам пабачыць касьцёл. Эва кажа, што яна беларуска з Канады, рымакаталічка. Мала-памалу жанчына перайшла на чысьцюсенькую пружанскую беларускую гаворку, паказала нам касьцёл і расказала, як даехаць да майго брата Ўсевалада Жукоўскага, які тут якраз недалёка й жыве і якога яна добра ведае.

З усходу праз усе Пружаны едзем на паўднёвы захад на Горку да другога брата Ігара. Дождж стаў густы, не пазнаю вуліц. Аж тут — царква-сабор! Як і калісь прыгожа й маестатычна выглядае. А далей — Белыя Крамы, помнік архітэктуры 19-га стагодзьдзя! Мінулі іх, і зноў нічога не пазнаю. Едзем і Сяргей кажа: «А тут — малы ставок». Гляджу: гэта-ж наша калісь паўнаводная абсаджаная вербамі, кубаня! А ля яе, на скрыжаваньні дзьвюх вуліц, Горкі й Хваткі, стаяў з расьпяцьцем Хрыстовым крыж... Цяпер няма тут ані крыжа, ні тужліва-лірычных вербаў, а з паўнаводнай кубані застаўся толькі абсохлы ставок. Праз грэблю, якую бывала вясною ў паводку залівала, выйшаўшы зь берагоў кубані, вада, была аселіца — зялёны луг, які два разы ў год касілі, вясной і восеньню. Там пасьвіліся коні. Няма цяпер ані аселіцы, ані коней. Самаход імчыць, пад'яжджаем да могліцаў. Па правым баку — каталіцкія зь белай мураванай, як і калісь, капліцай; зь левага боку — праваслаўныя з напоўразваленай драўлянай капліцай. Тут шмат успамінаў. Кожную весну перад провадамі мы, дзеці, папраўлялі, чысьцілі магілку дзядоў. Сяньня там спачываюць ужо й нашыя бацькі, браты й шмат хто з радні. Як пасьля мы даведаліся, на могліцы зь левага боку капліцы перанесены той крыж, што стаяў на скрыжаваньні вуліц. Сам крыж з расьпяцьцем — мэталёвы, падстава каменная, на ёй выбіты год — 1891. Крыжу роўна 102 гады! Добра, што дбайлівыя людзі перанесьлі яго на могілкі, захавалі. Гэтаж наша гісторыя.

Не апісаць таго пачуцьця, зь якім я сустрэла нашу хату і збоку хату Ігара. Тут засталася навекі асноўная частка цябе, большая частка, як тая, што блукала й блукае па шырокім сьвеце. За наступнай ад нашай, Франевай хатай, якая й цяпер стаіць, калісь летам каласілася прыгожае жыта, а ў ім валошкі, козлікі, па якія кожную суботу мы дзяўчаткі-падлеткі хадзілі, каб букетамі кветак упрыгожваць сьвяточна прыбраную хату, бо-ж назаўтра было сьвята-нядзеля. Сяньня жытнёвых палеткаў там ужо няма. Горка забудаваная чуць не да Кляванцаў. І сяброўак маіх ужо няма. Па Горцы, як калісь мы, бегаюць цяпер унукі.

Пружаны зьмяніліся, але ня толькі тым, што разрасьліся, што Пажарок зь пявучымі калісь жабамі, Кладкі й палеткі забудаваныя на адзін лад шэрымі дамамі; не таму, што на скрыжаваньні вуліц ня стала крыжа, што на месцы калісь вялікай прыгожай Прачысьценскай царквы стаіць няпрыветлівы ўнівэрмаг; не таму, што на вуліцах ня сустрэнеш зусім знаёмых людзей. Не, ня толькі таму! А таму, што Пружаны забыліся, выракліся роднае мовы! Адзін жах! Тож калісь усе мяшчане гаварылі па-беларуску — у хаце, на вуліцы, ля царквы, на рынку, у крамах нават габрэі з пакупнікамі гаварылі, таргаваліся па-беларуску. У школе мы, дзеці, гаварылі па-польску, але як толькі высыпалі на вуліцу, усё зашчабятала па-свойму. Ува ўрадах трэба было гаварыць па-польску, але й там розна бывала. Два суседзі папалі ў суд і судзьдзя засудзіў аднаго зь іх за тое, што той назваў другога «пес». Засуджаны з абурэньнем кажа суседу: «Сабака ты сабака, калі я на цябе казаў 'пес'?!» А цяпер у агульнай масе ўсё чужое, усе гавораць расейшчынай, і адны да адных чужыя, пахмурныя, няпрыветлівыя, быццам іх гнобіць грэх выначэньня свайго роднага, свае мовы, свае душы. Што праўда, то душа пружанца яшчэ жывая. Кранi яе толькі, зварухнi i яна адгукнецца беларушчынай.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

*(Працяг у наступным нумары)*

***Падпішэцеся на «Беларуса» для сваяка на Бацькаўшчыне!***

## 50-Я ЎГОДКІ САЮЗУ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ



*Удзельнікі адзначэньня 50-годзьдзя Саюзу Беларускае Моладзі ля тэатру імя Я. Купалы ў Менску.*

Зь ініцыятывы Задзіночаньня Беларускіх Студэнтаў (ЗБС) (старшыня Аляксей Глушко) было праведзенае сёлета ў Менску 26 чэрвеня адзначэньне 50-х угодкаў ад заснаваньня Саюзу Беларускай Моладзі (СБМ). Сьвяткавальная імпрэза, урачыстая вечарына, мелася адбыцца ў тэатры імя Я. Купалы. Але напярэдадні загадам Прэм'ера Вячаслава Кебіча імпрэза была забаронена. Урад ужыў адміністрацыйныя санкцыі супраць арганізатара мерапрыемства — ЗБС. У сваю чаргу ЗБС падало ў суд на Прэм'ера за зьнявагу годнасьці студэнцкае арганізацыі і абскардзіла ў Вярхоўны Савет законнасьць прынятае забароны.

Кіраўніцтва ЗБС зьбірае матар'ялы да зборніка пра СБМ (успаміны, фатаздымкі і іншыя дакументы). ЗБС зьвяртаецца да ўсіх былых сяброў СБМ з просьбай прысылаць гэткія матар'ялы.

## «БЕЛАРУС» У «ЛіМе»

Менская газэта «Літаратура і Мастацтва» (27.08.93) зьмясьціла крыху скарочаны передрук артыкулу нашага супрацоўніка Уладзімера Брылеўскага «Гісторыя паўтараецца» («Беларус» №№ 401, 402) з гэткім зазначэньнем:

«На нашу думку, чытачам 'ЛіМа' было-б цікава ведаць, як успрымаецца ўнутрыпалітычнае жыцьцё Беларусі, калі глядзець на яго з таго берага акіяна ('Беларус' выдаецца ў Нью-Ёрку, ЗША). А тое, што беларуская дыяспара неабыякавая да лёсу гістарычнай радзімы, паказаў Першы зьезд беларусаў сьвету. Прадстаўнікі ўраду абяцалі на зьезьдзе ўважліва выслухаць і прыняць да рэалізацыі ідэі і прапановы нашых замежных землякоў. Хацелася-б, каб урадам РБ быў-бы пачуты і голас Уладзіміра Брылеўскага».

«ЛіМ» з 30.09.93 у кароткай нататцы азнаёміў свайго чытача за зьместам чэрвеньска-ліпеньскага нумару «Беларуса».

## ВІКТАР ШАЛКЕВІЧ — БАРД, ЯКІ КРАНАЕ ЗА ЖЫВОЕ



*Віктар Шалкевіч сьпявае свае песьні ўдзельнікам міжнароднай канфэрэнцыі ў Гародні ў чэрвені сёлета. Фота Ул. Выдэркі.*

*Зь Віктарам Шалкевічам мы пазнаёміліся ў часе канфэрэнцыі «Рым-4», што адбылася ў Гародні напрыканцы чэрвеня сёлета. Канфэрэнцыя праходзіла ў будынку лялечнага тэатру. У гэтым тэатры Віктар працуе рэжысэрам і акторам. Таварыскі, энэргічны і нутрана інтэнсыўны, Віктар ахвоча выконвае пад гітару свае песьні, словы й музыку да якіх піша сам. Вакол барда сабралася група патрыятычнае моладзі, пагляды і настроі якое часткава выказаныя ў яго творах. Песьні свае Віктар сьпявае з глыбокім пачуцьцём і тэмпэрамэнтам, паглыбляючы трагізм іхнага зьместу. Паэт карыстаецца часамі мэтадам сатыры, з горыччу жалячыся на нядолю або зьдзекліва высьмейваючы недахопы.*

*Віктар Шалкевіч зьбіраецца выдаць касэтку сваіх песьняў. Думаецца, што яна будзе карыстацца папулярнасьцяй сярод прыхільнікаў песеннай культуры і нацыянальнага адраджэньня. Віктар — адзін з тых вершнікаў Пагоні, якіх ягоны малодшы папярэднік, Максім Багдановіч, заклікаў «біць у сэрцы, не даваць чужынцамі быць».*

**Янка Запруднік**

### ЯНА — ПРАВАСЛАЎНАЯ, Я — КАТАЛІК

*Чаму Ты, мой Божа, так сьвет падзяліў*
*няроўна. Няма ў ім спакою.*
*Багатаму з ранку калышаш дзяцей,*
*Да беднага — ані нагою…*
*Куды нам падзецца, дзе ўцехі шукаць?*
*Наўкола — ні друга, ні брата…*
*Дый знаюць у вёсцы і пан, і мужык:*
*Яна — праваслаўная, я — каталік…*
*Нібыта спачыў старажытны праклён*
*На вузкіх бацькоўскіх палосках…*
*Глянь — цягнуцца бедныя нашы шнуры*
*Ад лесу да самае вёскі.*
*І доля адна, і нядоля адна ва ўсіх,*
*Ня мінае нікога…*
*Дый знаюць у вёсцы і пан, і мужык:*
*Яна — праваслаўная, я — каталік…*
*Дый скажуць у вёсцы і пан, і мужык:*
*Яна — праваслаўная, я — каталік…*
*Навошта Ты бедны народ падзяліў*
*На «рускіх» і «польскіх», мой Божа?*
*Ўчыні якісь цуд, бо на гэтай зямлі*
*Ніхто нам зь ёй не дапаможа…*
*Яна безь мяне, ані я безь яе*
*Гадзіны пражыці ня зможам…*
*Дый знаюць у вёсцы і пан, і мужык:*
*Яна — праваслаўная, я — каталік…*
*Дый скажуць у вёсцы і пан, і мужык:*
*Яна — праваслаўная, я — каталік…*

### ЖЛОБСКАЯ НАЦЫЯ

*Добрай раніцы, жлобская нацыя*
*Сонца ўзыходзіць лупатае*
*Добрай раніцы, жлобская нацыя.*
*Аніхто дурную ня сватае*
*Добрай раніцы, жлобская нацыя*
*Расьцьвіла ў парку акацыя*
*Добрай раніцы, жлобская нацыя*
*Вераб'і ў калюзе купаюцца*
*Загагала гусь у блакітных нябёсах*
*Краіна ўстае і расчэсвае космы*
*Ёй толькі-бы дзень пражыць няпрыкметна*
*І паспрабаваць ад сябе ўцячы*
*Нас з ранку стамляюць бясслаўныя бітвы*
*А ўвечары сон безь вячэрняй малітвы*
*А ў снах мы ня бачым ні кветак, ні зорак*
*І жаднай надзеі, бо веры на грош*
*Добрай раніцы, жлобская нацыя…*
*Сабака на ганку залізвае раны*
*Лёс нацыі просты і наканаваны*
*Шырокі гасьцінец, цяністы і роўны*
*Пад самыя могілкі нас падвядзе*
*Хай хата старая, хай дроў ні палена*
*Адна толькі радасьць, што ўсё па калена*
*Хтось ззаду крычыць нам: «Спынецеся, людзі!»*
*А дзе ён, скажэце, убачыў людзей?*
*Добрай раніцы, жлобская нацыя…*
*Разумныя, дурні, сьляпыя, прарокі*
*Мы валім наперад, ідзём крок за крокам*
*А хто там ідзе? Пазнаюць нас адразу*
*Дзе мы, там пішчыць і аж курыцца пыл*
*Такое жыцьцё даў Пан Бог наш ласкавы*
*Бяз добрых сяброў, без каханьня, без славы*
*Жыцьцё? Але-ж хіба зграшу, бо ці-ж можна*
*Такое паскудства жыцьцём называць*
*Добрай раніцы, жлобская нацыя…*

**Віктар Шалкевіч**

## КААРДЫНАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ БЕЛАРУСАЎ КАНАДЫ

**вітае др. Вітаўта Кіпеля з наданьнем яму Горадзенскім Дзяржаўным Унівэрсытэтам 30 чэрвеня 1993 году ганаровага тытулу доктара гістарычных навукаў.**

Др. Вітаўт Кіпель, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку, ведамы беларускі грамадзкі, палітычны й навуковы дзеяч, у 1955 г. здабыў на Лювэнскім Унівэрсытэце дактарат з геалягічных навукаў. Як жыхар і грамадзянін Злучаных Штатаў Амэрыкі, на працягу колькіх дзесяцігодзьдзяў працаваў над гісторыяй беларусаў Амэрыкі, напісаў на гэтую тэму больш за 180 артыкулаў, якія пасьля ўвайшлі ў ягоную кнігу «Беларусы ў ЗША», выданую Нацыянальным Навукова-Асьветным Цэнтрам імя Францішка Скарыны ў Менску ў 1993 годзе. Апрача гэтага др. В. Кіпель апрацаваў супольна з сваёй сужонкай, сп-няй Зорай Кіпель, кнігу ў ангельскай мове «Беларуская Дзяржаўнасьць» — Byelorussian Statehood, выданую Беларускім Інстытутам Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку ў 1988 годзе.

Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады, вітаючы др. Вітаўта Кіпеля зь ягоным другім дактаратам, жадае яму добрага здароўя й далейшых дасягненьняў у ягонай навукова-дасьледчай дзейнасьці.

**Раіса Жук-Грышкевіч**
**Старшыня**

## УРАЖАНЬНІ АД І-ГА ЗЬЕЗДУ БЕЛАРУСАЎ СЬВЕТУ

У жыцьці кожнага чалавека бываюць падзеі, якія пакідаюць значны сьлед. Мне пашчасьціла прысутнічаць на Першым зьезьдзе беларусаў сьвету ў якасьці госьці. Уражаньні настолькі вялікія, што мо' трэба, каб прайшоў пэўны час, каб асэнсаваць іх. Палітычнае і гістарычнае значэньне зьезду будзе дасьледавана гісторыкамі і палітыкамі, яны зробяць нейкія высновы, але што галоўнае і найкаштоўнейшае для мяне, дык гэта сустрэчы і знаёмства са сваімі суайчыньнікамі. Вядома, што значны адбітак на твары пакідае асяродзьдзе, у якім вырас чалавек. Кажуць, чужаземца відаць здалёк. Але аб ніводным дэлегаце я не сказала-б, што ён чужы, бо пропускам былі вочы — прыгожыя, адкрытыя, усьмешлівыя, нейкія вельмі родныя і добразычлівыя. Зьезд праходзіў інтэлігентна, ня было розных суполак, фракцый, абраз. Калі ўзьнікалі напружаныя хвіліны, заўжды знаходзілася вельмі прыстойнае выйсьце, і ніхто не адчуваў сябе пакрыўджаным.

Замежныя госьці былі вельмі зьдзіўлены і засмучаны тым, наколькі мы адсталі ад цывілізаванага сьвету. Мы, пэўна, адкінуты гадоў на 30-40 назад, але-ж і іх зьдзівіла наша прырода. Адзін зямляк з Амэрыкі сказаў, што ў нас тут столькі жукоў, матылёў, кветкі пахнуць, птушкі сьпяваюць, нейкае паветра смачнае — штó даўно страцілі амэрыканцы.

І зноў-жа лёсы, знаёмства… Самае вялікае ўражаньне засталося ў мяне не ад чужынцаў, не. Усе яны нейк уладкаваліся ў жыцьці. Жывуць добра, шчасьлівыя дзеці, унукі, ня зьбіраюцца вяртацца на Бацькаўшчыну. Самае вялікае ўражаньне — гэта лёсы нашых тутэйшых беларусаў. Я маю на ўвазе былы Савецкі Саюз. Як-жа цяжка ім прыйшлося! Шмат каго закінула так далёка, што Парыж ці Мюнхен падаецца недзе побач. Яны прайшлі праз лягеры і высылкі, хворыя, неўладкаваныя. Марыць вярнуцца на Беларусь, але зараз гэта амаль немагчыма.

Вялікае ўражаньне на мяне зрабілі сёстры Смоліч — дочкі нашага знакамітага вучонага, выкладчыка БДУ,

*(Працяг на 7-й ст.)*

# ПРАДКАЗАЛЬНАЯ ГІСТОРЫЯ

Апошнім часам былы Савецкі Саюз называюць краінай зь непрадказальнай гісторыяй. Літаральна штадня гісторыкі выяўляюць факты, якія пераварнулі наша разуменьне існасьці савецкае ўлады.

Мне не хацелася-б, каб гэткі лёс спаткаў гісторыю пачатку прывядзеньня ў парадак габрэйскіх могілак Беларусі.

Шэсьць месяцаў як я жыву ў Нью-Ёрку, але справа, якою займаюся апошнія тры гады не пакідае мяне ў супакоі.

Слонім, Валожын, Радунь, Менск — у гэтых гарадох Беларусі праробленая пэўная праца па захаваньні і прывядзеньні ў парадак габрэйскіх магільнікаў. Улетку 1989 году ў часе майго першага прыезду ў Слонім я пабачыў бульдозэр, які рыхтаваў пляцоўку пад будаўніцтва магазыну на габрэйскім могільніку. Разам з Ш. Брэсткім зь Нью-Ёрку мы сабралі й пахавалі чарапы й косьці, вырытыя бульдозэрам. Пасьля даўгое гутаркі са старшынём гарвыканкаму была прынятая пастанова спыніць работы на могільніку на пэўны час, пакуль ня будзе разьвязанае пытаньне ў вышэйшых інстанцыях.

Упяршыню за ўвесь час існаваньня савецкае ўлады рабілася спроба спыніць разбурэньне магільніка. Я добра памятаю, як у канцы 50-х гадоў у маім родным горадзе Мазыры на месцы каталіцкіх могілак быў пабудаваны клюб. Крыху пазьней на габрэйскіх могілках была пабудавана школа. Адзінае, што было дазволена зрабіць сваякам — гэта ізноў пахаваць косьці. Мой старэйшы брат і дваюрадная сястра перапахавалі нашу бабулю, якая памерла перад Другой сусьветнай вайной.

Гарадзкія ўлады ў Слоніме абяцалі выбаршчыкам пабудаваць магазын у максымальна кароткім часе. Да новых выбараў заставалася няшмат часу. Давялося ці раз спатыкацца ў Слоніме з выбаршчыкамі і прадстаўнікамі мясцовае ўлады, тлумачыць адным і другім немагчымасьць будаваньня магазыну на магільніку. Гэтак вялася гэтая папераджальная работа. Юрыст М. Мэльцэр — выхадзец са Слоніма знайшоў закон, якім пагарджалі шмат гадоў. Згодна з законам, на могілках пасьля 25 гадоў ад апошніх паховінаў можна было прымаць надмагільныя помнікі, але нельга было праводзіць раскопкі. Грунтуючыся на гэтым законе, мы запатрабавалі перанесьці будаўніцтва магазыну на новае месца. Рабін Зэлік Эпштэйн зь Нью-Ёрку, лёрд Эмануіл Якубовіч зь Лёндану ўзялі актыўны ўдзел у гэтых падзеях. Прафэсар Леон Він зь Нью-Ёрку таксама прыяжджаў у Слонім для пазытыўнага разьвязаньня гэтага пытаньня.

У Валожыне і Радуні былі таксама спробы выкарыстаць магільнікі. У 60-х гадох з могілкаў у Радуні бульдозэр выкінуў усе надмагільныя помнікі, у тым ліку і з магілы Хофэц-Хаіма. Зусім была разбурана агароджа. Адзінае, што нагадвала аб існаваньні могілкаў — помнік на брацкай магіле габрэяў Радуні, расстраляных нямецкімі фашыстамі, які разваліўся. На ім, як звычайна, было напісана, што тут пахаваныя савецкі грамадзяне.

У Валожыне захаваліся надмагільныя помнікі і частка агароджы, але месца брацкае магілы не пазначана. Большая частка помнікаў ляжала на зямлі.

У Менску на тэрыторыі магільніка, дзе пахаваньні пачаліся ў 80-х гадох мінулага стагодзьдзя, улады гораду пачалі будаваць стадыён. Карыстаючыся досьведам, набытым у Слоніме, пакойны рабін І. Візэйфэльд зь Нью-Ёрку і я стрымалі будаўніцтва. У часе Другой сусьветнай вайны гэты могільнік уваходзіў у тэрыторыю гета, і на ім пахаваныя шматлікія ахвяры. Тут-жа ляжаць габрэі, дэпартаваныя са шмат якіх краін Эўропы.

Гэткія былі абставіны на габрэйскіх магільніках Беларусі, калі габрэйскія арганізацыі Беларусі і ЗША практычна пачалі разьвязваць пытаньне спыненьня разбурваньня магільнікаў і прывядзеньня іх у парадак.

Што ўдалося зрабіць за мінулыя тры гады?

На могілках у Радуні паставілі помнік на магіле Хофэц-Хаіма — дакладная копія таго, які быў пастаўлены пасьля ягонае сьмерці. Каля 50 помнікаў, што знаходзіліся ў зямлі, удалося дастаць. Яны пастаўленыя на тэрыторыі магільніка, дзе ня было пахаваньняў. Вялікае матар'яльнае і маральнае падтрыманьне далі М. Гэльман зь Нью-Ёрку і Р. Дрэсьлер з Кліўленду.

Каля паўтара году таму была праведзена цырымонія закладкі першага каменя ў адбудоўваную агароджу магільніка ў Валожыне. Прэм'ер-міністар Беларусі Вячаслаў Кебіч і я спусьцілі першы камень. На цырымоніі прысутнічалі кіраўнікі камісіяў Вярхоўнага Савету Беларусі, прадстаўнікі грамадзкіх арганізацыяў. Беларускае тэлебачаньне, вядучыя газэты далі шырокую дадатную інфармацыю аб гэтай падзеі. Прэм'ер-міністар публічна паабяцаў выдзеліць сродкі на ўпрадакаваньне гэтага магільніка. Летась урад рэспублікі выдзяліў значную суму грошай, і частка работаў ужо выканана. У мяне ёсьць інфармацыя, што й сёлета будуць выдадзены грошы. Але, на жаль, работы спынены, бо габрэйскія арганізацыі Беларусі не давялі гэтага пытаньня да канца.

Да майго ад'езду зь Менску быў распрацаваны праект аднаўленьня і захаваньня магільнікаў у Менску. Маю на ўвазе увекавечыць памяць ня толькі тых, хто пахаваны там да вайны, але і ў брацкіх магілах у часе вайны. Настаў час устанавіць помнік усім габрэям, што загінулі ў часе вайны ў Беларусі. У Менскім гета было каля 100 тысячаў чалавек. Ня шмат каму зь іх удалося ўратавацца. Літаральна да апошніх перад ад'ездам дзён да мяне прыходзілі і тэлефанавалі людзі, каб расказаць пра няведамыя мясьціны расстрэлу і пахаваньня габрэяў, асабліва ў невялікіх гарадкох і вёсках.

Сёньня, калі ўрад Рэспублікі Беларусь гатовы выдзеліць грошы і памагаць габрэям прыводзіць у парадак могілкі, было-б праступкам не выкарыстаць гэтую магчымасьць.

Нашчадкі габрэяў, што жылі ў Менску, Гародні, Берасьці, Пінску, Баранавічах, Гомелі, Лідзе, Мазыры, Хойніках і іншых штэтлах Беларусі, забавязаныя захаваць магільнікі, на якіх пахаваныя многія пакаленьні нашых продкаў.

Аб тым, як трэба разьвязваць гэтае пытаньне арганізацыйна — у наступным артыкуле, пагатоў, што турботы аб магільніках — не адзіная праблема габрэйскага жыцьця ў Беларусі.

Я з радасьцяй прыму прапановы, зьвязаныя з гэтай праблемай.

Мой адрас: 760 East 10 Street, Apt. #1C, Brooklyn, N.Y. 11230. Tel: (718) 421-0768.

**Якаў Гутман**

### «ХТО ДБАЕ АБ ГАБРЭЙСКІХ МАГІЛЬНІКАХ У БЕЛАРУСІ?»

Пад гэткім загалоўкам англамоўная газэта The Jewish Post of New York (летні нумар за 1993 год) зьмясціла ілюстраваны артыкул Якава Гутмана, які апісвае стан захаваньня могілкаў і заклікае да супольных намаганьняў беражліва ахоўваць памяць пра продкаў і ахвяраў нацызму.

# ТЫДЗЕНЬ ПАНЯВОЛЕНЫХ НАРОДАЎ



Штагоду ў Злучаных Штатах на працягу трэцяга тыдня ліпеня адзначаецца Тыдзень Паняволеных Народаў. З гэтай нагоды губэрнатар штату Іліной Джым Эдгар наладзіў у гор. Чыкага прыняцьцё прадстаўнікоў этнічных арганізацыяў. Сп. Нікадэм Жызьнеўскі (другі зьлева) прадстаўляў на ўрачыстасьці Беларускі Каардынацыйны Камітэт Чыкага. На прыняцьці былі таксама прадстаўнікі іншых этнічных групаў — харватаў, украінцаў, летувісаў, кубінцаў, латышоў, палякоў. У цэнтры фатаграфіі — сп-ня Пэт Міхальская, памочніца губэрнатара да этнічных справаў.

Адзначэньне Тыдня Паняволеных Народаў, як і папярэднімі гадамі, адбылося таксама ў Нью-Ёрку з удзелам прадстаўнікоў Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня.

## УШАНАВАНЬНЕ ПАМЯЦІ МАКСІМА ГАРЭЦКАГА

У часе Першага зьезду беларусаў сьвету аднэй з найбольш памятных урачыстасьцяў, якая як-бы варочала трагічнае мінулае Беларусі пачатку трыццатых гадоў, была цырымонія адчыненьня мэмарыяльнае дошкі з бюстам Максіма Гарэцкага на гістарычным будынку Інстытуту Беларускай Культуры. Адчыненьнем мэмарыяльнае дошкі адзначалася стагодзьдзе ад дня нараджэньня Максіма Гарэцкага (нар. 18 лютага 1893 г.). На дошцы напісана: «Тут у 1925 годзе ў Інстытуце Беларускай Культуры працаваў Максім Гарэцкі — выдатны беларускі пісьменьнік і грамадзкі дзяяч». Адчынялі мэмарыяльную дошку сыны былых супрацоўнікаў Інбелкульту спсп. Радзім Гарэцкі, віцэ-прэзыдэнт АН Беларусі, і Вітаўт Кіпель, старшыня Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку. На ўрачыстасьці прамаўлялі пісьменьнік Янка Брыль, Радзім Гарэцкі й Вітаўт Кіпель.



*«Дзеці Інбелкульту» — гэтак жартоўна назваў фатаграфію сп. Радзім Гарэцкі. На фатаграфіі — дзеці тых супрацоўнікаў Інбелкульту, што сталіся ахвярамі сталінскіх рэпрэсіяў ды сем'ям якіх даўгія дзесяцігодзьдзі было забаронена варочацца на Беларусь. Зьлева: Радзім Гарэцкі, Алеся Бабарэка, Мая Кляшторная, Марыя й Ганна Смоліч і Вітаўт Кіпель. Фота Алесі Кіпель.*

У будынку колішняга Інбелкульту цяпер месьціцца Нацыянальны Навукова-Асьветны Цэнтр імя Францішка Скарыны. У часе Зьезду там была адчыненая выстаўка, на базе якое будзе створаны музэй «Беларусы ў сьвеце». У тым-жа будынку адбылося паседжаньне, прысьвечанае абмеркаваньню заплянаванага энцыклапэдычнага даведніка «Беларускае Замежжа».

### НАВУКОВАЯ ПРАЦА ПРА БЕЛАРУСКІХ МАСТАКОЎ ЗАМЕЖЖА

Менская газэта «Добры вечар» (6.07.93) паведаміла:

28 чэрвеня на аддзяленьні мастацтвазнаўства Беларускай Акадэміі Мастацтваў абаронена першая навуковая праца, прысьвечаная выяўленчаму мастацтву беларускай эміграцыі.

У дыплёмнай працы выпускніцы акадэміі Тацьцяны Канавалавай разглядаецца і аналізуецца творчасьць Міхася Наўмовіча і Ўладзімера Шыманца (Францыя), Івонкі Сурвілы (Канада), Зьмітра Чайкоўскага (Нямеччына), Галіны Русак, Ірэны Рагалевіч, Надзеі Кудасавай, Пётры Міграновіча (ЗША), Лёніка Тарасэвіча, Міколы Давідзюка (Беласточчына) і іншых нашых суайчыньнікаў з-за мяжы. Кіраўнік працы — загадчыца аддзелу часопісу «Мастацтва» Валянціна Трыгубовіч.

### АКАДЭМІК УЛ. ПЛАТОНАЎ — ПРАФЭСАРАМ У КАНАДЗЕ

Паводля ўнівэрсытэцкіх крыніцаў у Атаве, Уладзімір Платонаў, былы прэзыдэнт АН Беларусі, прыняў пазыцыю сталага прафэсара на ўнівэрсытэце ў гор. Ватэрлё (правінцыя Антарыё), дзе пачне працаваць з пачаткам 1994 году. Да таго часу будзе чытаць лекцыі на Мічыганскім Унівэрсытэце ў Ан-Арбары ў ЗША.

**Я. В.**

*З жыцьця ў Канадзе*

## ПАЛОМНІЦТВА ДА БЕЛАРУСКАГА КРЫЖА

Роўна 5 год таму назад у сьвяточны Дзень працы, у часе 18-ай Сустрэчы Беларусаў Паўночнае Амэрыкі ў Таронта, адбылася гістарычная падзея — пасьвячэньне пабудаванага беларусамі для адзначэньня 1000-годзьдзя хрысьціянства ў Беларусі Беларускага Крыжа ў прошчы ў Мідляндзе на поўнач ад Таронта.

Штагод да гэтага крыжа адбываюцца паломніцтвы. Сёлета 28-га жніўня адзначылі мы пятыя ўгодкі пабудовы й асьвячэньня яго.

Айцец Карль Мат'юс, перад тым як пачаць багаслужбу, прывітаў беларускае паломніцтва, гаварыў аб значэньні яго й для нас і для канадыйскае краіны, у якую мы ўносім сваю веру, сваю культуру. У багаслужбе ўлучаныя былі малітвы за мір у Беларусі, за супакой душ паломнікаў да Беларускага Крыжа, якія адыйшлі ўжо на той сьвет: Марыі Каладзейскай, Баляслава Лішчонка, Галены Гарадэцкай і Вінцэнта Жук-Грышкевіча.

Пасьля багаслужбы працэсія накіравалася да Беларускага Крыжа. Надвор'е было сонечнае, дасканалае. Здалёк на ўзгорку між зелені хвояў узьнімаўся манумэнтальны бронзава-залацісты Еўфрасінеўскі крыж. Абапал яго вецярок разьвіваў бел-чырвона-белы беларускі й з кляновым лістком канадыйскі сьцягі, у падножка крыжа, пышна расьцьвіўшы, раздаваліся кветкі. Нашая сьвятыня выглядала ўрачыста і так прыгожа. Нездарма айцец Карль Мат'юс назваў яе "Beautiful Cross", калі прыпамінаў прысутным гісторыю гэтага манумэнту.

Урачыстасьць ля крыжа пачалася малітвай сьвятара і пасьвячэньнем сьвятой вадой крыжа ды паломнікаў. Тады быў малебен у беларускай мове, прачынаны Раісай Жук-Грышкевіч. Гэта былі вытрымкі з багаслужбы асьвячэньня крыжа зь 5-га верасьня 1988 году.

«...Мы слугі Твае... сёньня прыносім Велічы Тваёй славу, падзяку й пакорнае пакланеньне, і просім Цябе глянуць ласкава на гэты вось крыж, які мы паставілі на ўспамін аб ласцы веры сьвятой, дадзенай нашаму беларускаму народу тысяча гадоў таму назад. Пашлі на яго ласку Духа Твайго Сьвятога, блаславі, асьвяці яго і дай яму быць нам і ўсяму нашаму беларускаму народу магутнай абаронай ад усіх супраціўнікаў бачных і нябачных».

Урачыстасьць закончылася пікнікам пад адкрытым небам у цені дрэваў парку прошчы пад напевы кагарак, якія зьляцеліся да нас таксама на сьвята.

**Раіса Жук-Грышкевіч**

## УРАЖАНЬНІ АД І-ГА ЗЬЕЗДУ

***(Заканчэньне зь 5-й ст.)***

стваральніка першай геаграфіі Беларусі, адраджэнца, дзеяча БСГ, які стаяў ля вытокаў БНР — Аркадзя Смоліча, рэпрэсіяванага ў 30-я гады. Колькі-ж ім давялося перажыць пакут і гора, працаваць усё жыцьцё... А што маюць зараз? — жабрацкія пэнсіі. А ў Галіны Аркадзеўны — адзіная дачка вельмі хворая, інвалід І-й групы, за якой патрэбен дагляд. У 1967 годзе ў 16-гадовым узросьце папала пад аўтамабіль і дзяўчыну не змаглі ўратаваць. А была-ж вельмі таленавітая. Малявала. Нават яе выстава была ў Парыжы.

Так і жывуць. Ні на што не спадзяюцца, ні аб чым ня мараць. Патрэбных мэдыкамэнтаў няма, добрую ежу купіць няма на што. Быў у Менску іх дом па вуліцы Старажоўскай, 11; зараз гэтым займаецца камісія па рэабілітацыі, але-ж ужо ня вераць, што вернуцца ў Менск, дзе нарадзіліся. Мабыць, у Кіеве, дзе яны зараз жывуць (Бехцераўскі зав. д. 13, кв. 25), і прыдзецца паміраць.

А як хацелася хоць чым-небудзь дапамагчы. Адзінае, што было ў маіх сілах, гэта ахвяраваць відэакасэту зь фільмам «Аркадзь Смоліч», зьнятым ня так даўно на кінастудыі «Беларусьфільм», ды падвезьці да Маскоўскіх могілак, дзе пахаваны блізкія.

А колькі яшчэ беларусаў раскідана па сьвеце з такім цяжкім лёсам... Няхай-жа Бог павернецца да іх і даруе сваю любоў і ласку. Няхай-жа стане ім хоць крышачку лепш і весялей у жыцьці. Мы памятаем аб вас усіх і любім вас. Нам толькі трэба ведаць як мага больш праўды. І зьезд беларусаў зрабіў у гэтым напрамку першы крок напарад. Мы ўбачылі, як нас шмат, колькі мы таленавітыя і інтэлігентныя, і колькі яшчэ трэба працаваць, каб аднавіць нашу Бацькаўшчыну. Каб іншыя дзеці выхоўваліся шляхетнымі і вартымі сваёй слаўтай гісторыі, каб у будучым яны аднавілі былую славу нашай зямлі, і людзі ехалі ў эміграцыю ўжо не зь Беларусі, а на Беларусь.

**Натальля Сьцяжко**

*З жыцьця ў Аўстраліі*

## ПАРАФІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА

Прыход БАПЦ у Адэляйдзе ў Паўдзённай Аўстраліі адзначыў сьвята сваіх патронаў сьв. Пятра й Паўла ў нядзелю 18 ліпеня. Царква на гэты дзень была ўпрыгожана зяленьню й кветкамі. Надвор'е стаяла цёплае й сонечнае. Айцец Міхась Бурнос адслужыў сьв. Літургію й малебен, які закончыўся хрэсным ходам вакол царквы. Пасьля багаслужбы ў прыцаркоўнай залі адбыўся сьвяточны абед, прыгатаваны жанчынамі. Старшыня парафіяльнай рады У. Акавіты прывітаў усіх з днём сьвята. Хвілінай цішыні была ўшанаваная памяць памерлых парафіянаў. Айцец Міхась благаславіў ежу, прысутныя адсьпявалі «Ойча наш».

За бяседнымі сталамі час прайшоў у сяброўскіх гутарках аж да 5-й вечара. Усе разьехаліся ў вясёлым настроі.

**У. Акавіты**

## БЕЛАРУС НА МІЖНАРОДНАЙ КАНФЭРЭНЦЫІ МАТЭМАТЫКАЎ

Ад 1-га па 14-га жніўня ў ірляндзкім гор. Галвэй адбывалася міжнародная канфэрэнцыя матэматыкаў, якія займаюцца вывучэньнем тэорыі групаў. У канфэрэнцыі ўзяло ўдзел каля 200 навукоўцаў з 20 краін. Такія канфэрэнцыі адбываюцца што чатыры гады. Сярод удзельнікаў быў малады беларускі матэматык др. Павал Залескі, які прачытаў даклад на тэму «Альгарытм для вызначэньня пэўных падгрупаў у свабоднай групе». Др. Залескі працуе цяпер часова на Карльтанскім Унівэрсытэце ў сталіцы Канады Атаве.

**Я. В.**

## BELARUSIAN REVIEW, Vol. 5, N. 2, Summer 1993

Багаты зьместам, летні выпуск «Беларускага Агляду» падаў ілюстраваную інфармацыю пра візыт Старшыні ВС РБ С. Шушкевіча ў Вашынгтон. Матар'ялы нумару закранаюць такія важныя тэмы, як сусьветны зьезд беларусаў, праект канстытуцыі РБ, калектыўная абарона, вайсковыя рэформы, Чарнобыль, беларусіка ў заходнім друку, беларуска-амэрыканскі гандаль і іншае.

Найлепшы спосаб паінфармавацца свайго кангрэсмэна пра Беларусь — падпісацца для яго на «Беларускі Агляд».

## ДАКУМЭНТАЦЫЯ СТАЛІНСКІХ АХВЯРАЎ

Напрыканцы леташняга году ў Менску выйшла кніга — усяго тысячным тыражом — і адразу-ж сталася рэдкасьцю: *Возвращенные имена. Сотрудники АН Беларуси пострадавшие в период сталинских репрессий.* Рэдактар А. С. Махнач, акадэмік АН Беларусі. Мінск, «Навука і тэхніка», 1992. 120 ст.

У зьмястоўным уступе ўкладальнік падкрасьляе, што крыніцай дасьледваньня сталіся матар'ялы пэрсанальных справаў, якія перахоўваліся ў архівах КДБ, Цэнтральным Навуковым Архіве АН Беларусі ды іншых сховішчах рэспублікі. У кнізе дадзеныя ўпяршыню біяграфіі 143 супрацоўнікаў Інстытуту Беларускай Культуры — Беларускай Акадэміі Навук — Акадэміі Навук БССР, ахвяраў сталінскага тэрору. Адзначана ў кнізе гэтаксама, якую невымяральную шкоду Беларусі прынесьлі тагачасныя арышты і наколькі яны спрычыніліся да таго, что Беларусь апынулася на даўгія гады амаль без нацыянальнае творчае інтэлігенцыі.

Укладальнік прарабіў вялізарную працу, расшукваючы біяграфічныя дадзеныя аб такіх выдатных навукоўцах, як Мікола Азбукін, Адам Бабарэка, Антон Баліцкі, Пётра Бузук, Вацлаў Ластоўскі, Аркадзь Смоліч, Аляксандр Шлюбскі, Аляксандр Цьвікевіч, Іван Серада, Зьмітро Прышчэпаў ды дзесяткі іншых. З тых, што апынуліся воляй шчасьлівага выпадку на Захадзе, прыведзеныя дадзеныя аб Яўхіму Кіпелю. У кнізе зазначана: «Яўхім Яўсеевіч Кіпель нар. 1895 г. у вёсцы Байлюкі, Глускага раёну. Працаваў сакратаром Аддзелу Прыроды й Народнай Гаспадаркі Інстытуту Беларускай Культуры, потым — Беларускай Акадэміі Навук. Арыштаваны АДПУ БССР 28 чэрвеня 1930 г., высланы ў гор. Налінск на пяць гадоў. Паўторна арыштаваны ў сьнежні 1935 г. у гор. Арле і засуджаны на пяць год папраўча-працоўных лягероў. Адбыў тэрмін у сьнежні 1940 году. У часе Вялікай Айчыннай Вайны жыў і працаваў у Менску. Быў на эміграцыі ў Нямеччыне й ЗША. Удзельнічаў у працы арганізацыяў, якія гуртаваліся вакол Беларускага Кангрэсавага Камітэту. Напісаў шэраг артыкулаў аб савецкіх лагерох. Рэгабілітаваны 10 чэрвеня 1988 г. Вярхоўным Судом БССР.»

Апрача крапатліва сабраных біяграфічных дадзеных, укладальнік патрапіў пазнаходзіць і сапраўды рэдкія фатаграфіі рэпрэсіяваных. Некаторыя зь іх — у канцлягерным адзеньні.

Надзвычай каштоўная публікацыя.

## ДОБРЫЯ СПРАВЫ ФОНДУ «САКАВІК»

Заснаваны сёлета ў Менску дзіцячы фонд «Сакавік» (старшыня сп-ня Марыя Міцкевіч; гл. «Беларус» № 402) праводзіць дзейнасьць па колькіх праграмах: «Дапамога дзецям», «Будуем для дзяцей», «Юныя таленты», «Беларускі рыцарскі клюб». За кароткі час свайго існаваньня кіраўніцтва фонду здабыло давер грамадзтва і мае ўжо канкрэтныя дасягненьні, пра якія расказаў мастацтвавед Валеры Буйвал у артыкуле «Каго сагравае 'Сакавік'» у «Настаўніцкай газэце» (23.06.93).

Фонд «Сакавік» разьлічвае далей на падтрымку грамадзкасьці, у тым ліку суродзічаў з-за мяжы.

Адрас: Дзіцячы Фон «Сакавік», 220012 Менск, вул. Сурганава, 13А-2. Тэл. (0172) 394-480; факс: (0172) 716-574.

## ВІНШАВАНЬНЕ СА ШЛЮБАМ



Сёлета 1-га жніўня сп-чна Соня Міляновіч выйшла замуж за Крыстафара Боўдрова. Акт шлюбу выканаў а Г. Крэмарэнка ў праваслаўнай царкве Сьв. Мікалая ў Рычмандзе, штат Мэйн.

Матка Соні, Надзя (Дзідзя) з мужам Сьцяпанам і сынам Адамам Гурыны, сёстры Ева, Люба, Вера і П. Кулеш жадаюць Соні й Крыстафару многа шчасьця ў іхным супольным жыцьці.

## *«ЗАБАВА», або ВЯЛЕЙСКІЯ «РАСЕЙЦЫ» Ў НЬЮ-ЁРКУ*

Вялейскі народны музычна-танцавальны ансамбль «Забава», якім кіруе заслужаны працаўнік культуры РБ Анатоль Шатаў, складаецца зь вельмі здольных і сымпатычных артыстаў і музыкаў. Чаго ансамблю не хапае, дык гэта нагляду над тым, якім яго паказваюць вонкаваму сьвету.

Ансамбль «Забава» быў у жнівені сёлета ў ЗША, выступіў з канцэртамі на Лёнг-Айлендзе ў штаце Нью-Ёрк. Канцэрты адбыліся (пры вельмі невялікай колькасьці гледачоў) у гор. Рывэргэдзе, Саўт-Гэмптане і Нью-Ёрку (Брукліне). Прыяжджаў з ансамблем і народны дэпутат РБ Іван Каратчэня. Мы ня ведаем, якое дачыненьне сп. Каратчэня меў да афішы, што рэклямавала «Забаву» як «расейскую народную трупу». Сп. Каратчэня не патурбаваўся скантактавацца ані зь беларускай місіяй пры ААН, ані зь якой-небудзь іншай беларускай арганізацыяй ці групай амэрыканскіх беларусаў, якім, зразумела, было-б цікава і на канцэрце "Забавы" пабыць і са сп. Каратчэнем сустрэцца, пагутарыць. Ад гэтага кантакту скарысталі-б напэўна і сябры ансамблю, і амэрыканскія беларусы, і, можа, сам сп. дэпутат Каратчэня. Прынамся была-б нагода вытлумачыць яму, што не да твару народнаму дэпутату Беларусі і беларускім артыстам прыяжджаць у Амэрыку і даваць сябе выстаўляць як расейцаў.



Russian Folk Troupe
Premiers
on
The East End

Experience the Folk Culture of Native Russia
with
Instruments, Dance, Costume and Song

"ZABAVA"
from
Vileyka, Republic of Belarus

## ПРАГРАМЫ ЗША ДЛЯ БЕЛАРУСІ

Пералік праграмаў дапамогі Беларусі з боку ЗША пададзены ў летнім выпуску англамоўнага часапісу БАЗА «Беларускі Агляд». У пераліку названа больш за дзесяць розных праграмаў у галінах мэнаджмэнту, бізнэсу й асьветы.

## НА ЎГОДКІ СЬМЕРЦІ С.П. УЛ. ХМЕЛЯ

1-га жніўня ў беларускай праваслаўнай царкве Сьв. Юр'я ў Чыкага настаяцель прыходу ярэй а. Якаў адслужыў паніхіду на ўгодкі сьмерці сьв. памяці Ўладзіміра Хмеля, які нарадзіўся ў в. Бярозьвец Карэліцкага раёну. Адыйшоў ад нас у далёкую дарогу 13 ліпеня 1992 году. Памяць аб дарагім мужу, бацьку, брату, швагру, дзеду й прадзеду будзе жыць у нашых сэрцах.

Хай будзе яму пухам амэрыканская зямля.

**Жонка Анна Хмель і ўся радня**

## МЕНСКАЕ ГРАДЗКОЕ ГРАМАДЗКАЕ АБ'ЕДНАНЬНЕ «131-Ы ЁД ЧАРНОБЫЛЯ»

Таварыства створанае з мэтай сацыяльнай абароны дзяцей і дарослых, што пацярпелі ад ёдавага ўдару ў выніку чарнобыльскай аварыі і гасьпіталізаваныя ў травені 1986 г. ў розных клініках Менску. У нашым аб'еднаньні налічваецца да 300 дзяцей і 250 дарослых асобаў. Просім Вас супрацоўнічаць з нашай арганізацыяй і пры магчымасьці дапамагчы нашым дзецям выздаравець за межамі.

**Кацярына Грыгораўна Пажыган,**

Заст. старш. МГГА «131-ы ёд Чарнобыля»
220047 Менск
вул. Несьцерава, 84-254
тэл.: 42-88-67

## ПАВЕДАМЛЕНЬНЕ Й ПРОСЬБА БІНіМ

Як паведамлялася ў друку, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва апрацоўвае цяпер паказьнікі беларускага друку дыяспары. Прадугледжваецца выдаць два тамы бібліяграфіі: «Беларускі пэрыядычны друк — 1939-1994 гг.» і «Беларуская кніга замежжа — 1939-1994 гг.» Управа БІНіМу зварачаецца да суродзічаў, каб, калі хто мае калекцыі пэрыёдыкі й кніжак выдадзеных на эміграцыі, паведамілі нам аб сваіх зборах дзеля паўнейшага ўкамплектаваньня як паказьнікаў, гэтак і калекцыяў БІНіМу.

Гэтаксама, як ведама з друку, сёлета мы перадалі Нацыянальнай Бібліятэцы Беларусі значную частку эмігранцкіх друкаў. Але ў сувязі з тым, што перададзеная калекцыя яшчэ ня была поўнай, мы будзем імкнуцца калекцыю дапоўніць, як і ў меру магчымасьці зрыхтаваць падобныя падарункі іншым бібліятэкам Бацькаўшчыны. Дык зварачаемся да суродзічаў з просьбай: калі ў каго ёсьць камплекты пэрыядычнае літаратуры, пераплеценыя або і паасобныя, калі ласка, паведамце нам аб гэтым, падаючы назовы часапісаў, газэтаў ды і аўтараў манаграфічных працаў, зазначаючы, якія з гэтых друкаў могуць быць падараваныя на Бацькаўшчыну.

**Управа БІНіМ**

### НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД БІНіМ

*Склалі ахвяраваньні:*

| | |
|---|---|
| Б. Даніловіч | ам. дал. 120 |
| В. і Л. Кажан | 110 |
| Л. Мурог | 62 |
| К. Калоша | 20 |
| А. Субота | 20 |
| А. Рамана | 10 |
| У. Машанскі | 37 |
| У. Ракуць | 25 |
| Я. Ханенка | 10 |
| Я. Арцюх | 10 |
| В. Кажан | 10 |
| У. Сітнік | 10 |
| К. Вортс | 50 |
| М. Кажура | 20 |
| Л. Гутырчык | 10 |

## СЬВ. † ПАМ. АЛЯКСЕЙ БАЛКОЎСКІ

**8.III.1908 — 20.VII.1993**



20-га сакавіка г.г. адыйшоў ад нас на вечны супачынак Аляксей Балкоўскі, сябра нашай беларускай грамады ў Саўт-Рывэры — Гайленд-Парку, Нью-Джэрзі. Сьв. пам. Аляксей радзіўся ў в. Сухары Вялейскага павету. У 1934 годзе працаваў у Латвіі, вярнуўся дамоў ды скора ізноў паехаў у Латвію. У 1942 годзе выехаў у Нямеччыну ды працаваў на сельскай гаспадарцы каля Марбурга.

Пасьля вайны далучыўся да беларускай групы «віленчукоў», зь якімі жыў у лягерах Альлендорф і Мэнхэнгоф. Зь імі-ж Аляксей і яго жонка Зося пераехалі ў беларускі лягер Розэнгайм. Тут, як сябра царкоўнага хору, ён ужо ўдзельнічаў у хіратоніі епіскапа БАПЦ Васіля Тамашчыка.

У Злучаныя Штаты сп-тва Балкоўскія прыехалі ў 1950 годзе й пасяліліся ў Саўт-Рывэры. Тут Аляксей працаваў 22 гады ў фірме Тэмпл Ойл. Адначасна ён быў душою ўключаны ў царкоўнае ды беларускае грамадзкае жыцьцё. Хіба ня было нядзелі, каб ня было чуваць яго звонкага голасу з хораў нашае царквы Жыровіцкае Маці Божае.

На паховіны с. п. Аляксея прыйшлі ўсе, хто яго знаў: беларуская грамада, супрацоўнікі й суседзі. Айцец прат. Васіль выказаў спачуваньні сям'і ад парафіі, а. В. Русак ад грамадзкіх арганізацыяў.

На памінальным абедзе а. прат. Васіль дакладней расказаў аб укладзе сьв. пам. Аляксея ў адбудову царквы, уладжаньня беларускага могільніка ў Іст-Брансьвіку. Сп. М. Тулейка высока ацаніў удзел Алексея ў грамадзкім жыцьці асяродка ды яго натуральную цяплыню й ветлівасьць у адносінах з кожным чалавекам.

Нехай яму будзе вечная памяць сярод усіх нас.

**Васіль Русак**

### НА ДРУКАРНЮ

**Беларускага Грамадзка-Культурнага Таварыства ў Гайнаўцы склалі ахвяраваньні ў імя сьв. пам. Міколы Заморскага:**

| | |
|---|---|
| Т. Бэрд | ам. дал. 125 |
| Ф. Бартуль | 100 |
| Я. Галубовіч | 100 |
| Я. Запруднік | 100 |
| В. Русак | 50 |
| Ю. Касьцюкевіч | 50 |
| Ул. Русак | 40 |
| П. Кажура | 40 |
| К. і М. Верабей | 30 |
| К. Мерляк | 25 |
| А. Міцкевіч | 25 |
| П. Пікулік | 25 |
| Б. Даніловіч | 20 |
| У. Курыла | 20 |
| Я. Азарка | 20 |
| М. Тулейка | 20 |
| С. Дударэвіч | 20 |
| М. Януш | 10 |
| В. Стома | 10 |
| Н. Стома | 10 |
| П. Зыбайла | 10 |
| Ераменак | 10 |
| Я. і В. Яновіч | 10 |
| Я. Сапежынскі | 10 |
| Я. Літвіненка | 10 |
| П. Мельяновіч | 5 |
| Усяго | 895 |

## СЬВ. † ПАМ. АННА ОРЭШКОВІЧ

**16.XI.1922 — 14.VII. 1993**



Адыйшла ў вечнасьць сьв. пам. Анна Орэшкевіч з дому Гацкая. Нарадзілася яна ў в. Чарбасава Берасьцейскай вобласьці. Там расла, вучылася й працавала — спачатку пад польскай адміністрацыяй, а пасьля, з 1939 г. — пад савецкай.

У 1942 г. Анну немцы прымусова вывезьлі на працу ў Аўстрыю, дзе яна працавала да канца вайны. у 1945 г. прыбыла ў Італію, як польская грамадзянка. Там знаходзіўся жаўнер польскага войска Ўладзімер Орэшкевіч, які быў вывезены бальшавікамі ў Сібір, адкуль, праз Блізкі Ўсход, трапіў у Італію. Спаткаўшыся далёка ад роднай зямлі, Анна і Ўладзімер пазнаёміліся, пакахаліся й пажаніліся.

У 1946 г. выехалі ў Англію, дзе пражылі пяць гадоў, а ў 1951 г. перабраліся ў Амэрыку. У Злучаных Штатах уладзіліся, як і іншыя іміґранты, зусім добра. Але ў 1979 г. Анна моцна захварэла, была спачатку ўдома, а пасьля — у шпіталі, у доме для зьняможаных, дзе па гэтульні пакутных гадох памерла.

Пакінула ў смутку мужа Ўладзімера, дачку Алену й сына Сьцяпана. Сям'я нябожчыцы на працягу нялёкіх гадоў хваробы старалася аблегчыць пакуты жокі й маці ўсімі магчымымі высілкамі.

Ад прыхаджанаў, настаяцеля й царкоўнай управы царквы Сьв. Кірылы Тураўскага ў Рымнад-Гіле, Н.-Ё., складаем сям'і шчырыя спачуваньні. Нябожчыца была нашай прыхаджанкай, а ейны муж Уладзімер — наш добры працаўнік і ад колькіх гадоў — заступнік старшыні царкоўнай управы.

## ПЕРШЫЯ ЎГОДКІ СЬМЕРЦІ ПЁТРЫ КАЖУРЫ



У нядзелю 15-га жнівеня сп-ня Марыя Кажура зь дзецьмі Ганнай, Галінай і Альгердам ды іх сем'ямі адзначыла першую гадавіну сьмерці свайго мужа Пётры. На паніхідзе прылучылася да сям'і ўся мясцовая беларуская грамада ды прыехалі прыяцелі й знаёмыя з далейшых мясцовасьцяў Нью-Джэрзі й Нью-Ёрку. Пасьля Божай службы й паніхіды, сям'я с. п. Пётры запрасіла ўсіх прысутных на памінальны абед. Аб жыцьці й дзейнасьці гэтага піянэра беларускага грамадзкага й царкоўнага жыцьця ў штаце Нью-Джэрзі й Амэрыцы наагул гаварылі а. прат. Васіль Андрэюк, сп. Б. Даніловіч і сп-ня Галіна Русак. Стойкі але спакойны характар Пётры Кажуры дапамог нам наладзіць блізкія адносіны зь мясцовымі царкоўнымі, вэтэранскімі й грамадзкімі арганізацыямі. Гэта дапамагло нам таксама набыць маёмасьць тут у Гайленд-Парку. Пётра быў нястомным зьбіральнікам грашовых сродкаў на дапамогу беларускім школам, прэсе й цэрквам у Беласточчыне ды пашыральнікам рэлігійнай літаратуры ў беларускай мове на беларускіх землях.

Дык будзе памятаць яго заўсёды.

**В. Русак**

Пахавальны абрад выканаў а. Усевалад Шэмяціла. Хорам кіраваў сп. С. Жамойда. 16-га жніўня была адслужана паніхіда, а назаўтра ў нашай царкве была адслужана сьв. Літургія й адпяваньне. Пасьля цела нябожчыцы было адвезена на могілкі фармы РОВА ў штаце Нью-Джэрзі, дзе й пахаванае. Хай ёй будзе лёгкай амэрыканская зямлі, а Бог дасьць ёй блажэнства на ўлоньні Аўраама. Вечная памяць.

**Васіль Шчэцька**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Праз нашага прадстаўніка Р. Шайпака ў Аўстраліі:*

| | |
|---|---|
| Р. Шайпак | аўстр. дал. 50 |
| В. Каралюк | 35 |
| А. Груша | 50 |
| З. Кадняк | 50 |
| Я. Яшчэнка | 35 |
| У. Сідлярэвіч | 40 |
| Я. Барысевіч | 45 |
| С. Каржанеўскі | 95 |
| сп-тва Кукель | 50 |
| Г. Лукаш | 50 |
| М. Швэд | 35 |
| М. Нікан | 35 |
| П. Гуз | 35 |
| Я. Стасевіч | 35 |
| Н. Сікорская | 35 |
| Л. Яцкевіч | 35 |
| Н. Сэсэтка | 30 |
| За прададз. паасобнікі | 30 |
| Усяго | 770 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча ў Нью-Брансьвіку:*

| | |
|---|---|
| І. Гайдэль | ам. дал. 125 |
| Л. Трусэвіч | 100 |
| Я. Баран | 77 |
| Л. Літаровіч | 50 |
| П. Драздоўскі | 50 |
| А. Кажан | 50 |
| Я. Шыбут | 50 |
| В. Навіцкі | 50 |
| В. Кажан | 40 |
| М. Русак | 30 |
| В. Дубяга | 30 |
| А. Шурак | 30 |
| М. Ханяўка | 30 |
| Я. Скурат | 25 |
| У. Тэлеш | 25 |
| Т. Кольба | 25 |
| А. Якімовіч | 25 |
| Д. Ясько | 25 |
| В. Каракулька | 25 |
| Г. Агоніс | 25 |
| Т. Пятроўскі | 25 |
| а. К. Стар | 25 |
| В. Бурдзь | 25 |
| а. А. Радэнковіч | 25 |
| М. Кажура | 25 |
| А. Каравайчук | 25 |
| М. Шчорс | 25 |
| Г. Даніловіч | 25 |
| В. Ярашэвіч | 25 |
| М. Грэбень | 25 |
| В. Грузд | 25 |
| Усяго | 1.120 |

*Прыслалі беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | |
|---|---|
| К. Вайцяхоўскі | ам. дал. 70 |
| Я. Жучка | 50 |
| Л. Мурог | 40 |
| У. Сенька | 20 |

Усім падпішчыкам, ахвярадаўцам і нашым прадстаўнікам шчыры дзякуй!

**Адміністрацыя «Беларуса»**